


# наша Слова




Веруем
**ЖЫЦЦЁ Ў СЛУЖБЕ БОГУ І БАЦЬКАЎШЧЫНЕ** Стар. 5

**КІНА-ВІДЭА: ЧУЖЫЯ НАШЫ І СВАЕ ЧУЖАНІЦЫ** Стар. 7

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 24 (288) | 13 чэрвеня 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** было ўнесена некалькі істотных папраўак у Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Згодна з папраўкамі Дзяржаўнае тэлебачанне і радыё павінны ў поўным аб'ёме, не пазней як праз 24 гадзіны, перадаваць звароты і заявы Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і яго Старшыні, Кабінета Міністраў. Тэлебачанне і радыё павінны штотыднёва арганізоўваць інфармацыйна-асветніцкія перадачы працягласцю не менш як 45 хвілін аб рабоце Вярхоўнага Савета і штомесячна трансліраваць тэледэбаты прадстаўнікоў фракцый. Для таго каб дадзеныя папраўкі дзейнічалі, трэба каб пад імі свой подпіс паставіў Прэзідэнт.

❍ ***У ВЕНЕ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ДЗЯРЖАЎ — ЧЛЕНАЎ ЦЭНТРАЛЬНА-ЕЎРАПЕЙСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ.*** *На гэтым рэгіянальным форуме, які да гэтага часу аб'ядноўваў 10 дзяржаў, Рэспубліка Беларусь была прынята ў састаў паўнапраўных членаў ЦЕІ. Статус паўнапраўнага члена ЦЕІ дасць магчымасць істотна расшырыць удзел Беларусі ў агульнаеўрапейскіх працэсах, значна актывізаваць шматбаковае гандлёва-эканамічнае і гуманітарнае супрацоўніцтва ў цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне.*

❍ **МІХАІЛ ПАДГАЙНЫ, ЯКІ АПОШНІЯ ПАЎГОДА ПРАЦАВАЎ ДЫРЭКТАРАМ ГУМАНІТАРНЫХ ПРАГРАМ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЦЭНТРА ІНФАРМАТЫКІ ЮНЕСКО, НАЗНАЧАНЫ** начальнікам Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Распараджэнне аб гэтым падпісаў кіраўнік Адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч.

❍ ***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДАВЫБРАЎ ДВУХ ЧЛЕНАЎ ПРЭЗІДЫУМА.*** *Імі сталі Сямён Домаш і Васіль Саковіч. Членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета з'яўляюцца таксама С.Шарэцкі, В.Новікаў, Г.Карпенка, Ю.Малумаў, С.Калякін, М.Гіруць і У.Канаплёў.*

❍ **ПАСЛЯ НАЗНАЧЭННЯ БЫЛОГА ГЕНЕРАЛЬНАГА ДЫРЭКТАРА КІНАСТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»** Юрыя Цвяткова намеснікам міністра культуры Беларусі гэта пасада нейкі час заставалася вакантнай. Нядаўна на пасаду кіраўніка кінастудыі назначаны Іван Калінка. Да гэтага ён займаў пасаду намесніка генеральнага дырэктара «Беларусьфільма» па тэхнічным забеспячэнні і фінансах.

❍ ***ВЯДОМАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПІСЬМЕННІЦА СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ СТАЛА ЛАЎРЭАТАМ*** *штогадовай прэміі Курта Тухольскага, заснаванай шведскім ПЭН-цэнтрам. Як адзначаецца ў рашэнні шведскага ПЭН-клуба, Святлана Алексіевіч удастоена гэтай узнагароды за шматгадовую барацьбу за свабоду слова ў грамадстве.*

❍ **14 ЧЭРВЕНЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ КАНЦЭРТ «БЕЛАРУСЬ НЕ ПАКІНЕ СПЯВАЦЬ»** IV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Адкрыццё фестывалю адбылося ў Менску канцэртам «Ігар Лучанок і класічная беларуская паэзія», дзе прагучалі песні на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча і іншых.

❍ ***БЕЛАРУСКІМ КАРТОГРАФА-ГЕАДЭЗІЧНЫМ АБ'ЯДНАННЕМ «БЕЛГЕАДЭЗІЯ» ПАСТАЎЛЕНЫ НА ПРАМЫСЛОВУЮ АСНОВУ*** *выпуск лічбавых і электронных карт і планаў мясцовасці. Па дакладнасці і зместу электронныя карты не ўступаюць традыцыйным.*

❍ **У РАСКЛАДЗЕ РУХУ ПАСАЖЫРСКІХ ЦЯГНІКОЎ** на станцыі Менск-Пасажырскі з'явіўся новы маршрут — да Чэлябінска.

# *За дружбу народаў б'юць. Да крыві...*

Як паведамлялася, Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык вызвалены з СІЗО. Але застаюцца за кратамі сем грамадзянаў Украіны, а таксама адзін з кіраўнікоў Партыі аматараў піва Андрэй Рамашэўскі і паэт Славамір Адамовіч.

Акцыю салідарнасці са зняволенымі правяла 30 траўня беларуская моладзь, напярэдадні паведамляючы пра яе ўлёткамі.

У прызначаны час у скверы, што насупраць будынка адміністрацыі Прэзідэнта, сабралася некалькі сотняў чалавек, пераважна моладзі і падлеткаў. Праз некаторы час прагучаў заклік рухацца са сквера ў накірунку турмы, дзе планавалася правесці пікетаванне. У гэты ж час ад тэатра імя Янкі Купалы да маніфестантаў кінулася падраздзяленне АМАПа колькасцю каля 30 чалавек. Яны перакрылі цэнтральны выхад і пачалі выціскаць удзельнікаў акцыі ў глыбіню сквера. Але ці то амапаўцы настолькі недасведчаныя ў тактыцы дзеяння ў гарадскіх умовах, ці то не было адпаведнай каманды, але іншыя выхады засталіся свабоднымі, праз якія людзі і пайшлі на праспект. Дарэчы, паміж рознымі падраздзяленнямі сілавых структураў не было і адпаведнай скаардынаванасці. Так, напрыклад, аднаго майго знаёмага затрымалі звычайныя міліцыянты, але кінулі ў амапаўскую машыну. Яе гаспадары, убачыўшы незнаёмага «пасажыра», запыталі, што ён там робіць. Знаёмы адказаў, што яго затрымала міліцыя. Амапаўцы з мацюкамі на адрас сваіх калег з патрульна-паставой службы выставілі яго з машыны, заявіўшы, што «на яго ў іх разнарадкі няма».

Тым часам народ упэўнена крочыў ходнікамі ў бок турмы. У раёне кнігарні «Падпісныя выданні» на іх шляху стаў АМАП, перавезены машынамі ад прэзідэнцкай адміністрацыі. Не доўга думаючы, яны пусцілі ў справу дубінкі, палілася кроў. Маніфестантаў сталі адціскаць уніз праспекта да будынка Нацыянальнага банка. Але як толькі амапаўцы зноў апынуліся ў галаве калоны, моладзь паварочвалася на 180 градусаў і рухалася ў супрацьлеглым кірунку, а міліцыя зноў бегла наперад. Гэтая своеасаблівая «гульня ў даганялкі» працягвалася прыкладна каля паўгадзіны, пасля чаго міліцыя і амапаўцы пачалі рассякаць калону на дробныя часткі. Шмат хто кінуўся на супрацьлеглы бок праспекта, ратуючыся ад азвярэлых «абаронцаў закона», якія збілі і арыштавалі каля 30 чалавек. Трэба адзначыць, што ў натоўпе было надзвычай шмат агентаў спецслужбы ў цывільным, якія ўсё здымалі на відэа, а таксама спрабавалі хапаць людзей. Адзін з такіх выпадкаў я назіраў каля ГУМа, калі некалькі бамбізаў пачалі выкручваць рукі маладым хлопцам і цягнулі іх за тыя ж дзверы. На дапамогу хлопцам кінуліся людзі, і некалькі чалавек удалося адбіць. Гавораць, што існуе загад для спецслужбаў, паводле якога колькасць сакрэтных агентаў у цывільным пад час мітынгаў і дэманстрацыяў павінны складаць 1/7 частку ад агульнай колькасці ўдзельнікаў. Ці так гэта, пакуль высветліць не ўдалося, але маніфестанты ўжо паспелі даць падобным людзям мянушку «сямёрачнікі».

Перманентнае супрацьстаянне народа і ўзброенай улады працягвалася яшчэ каля дзвюх гадзін. За гэты час амапаўцамі было забрана яшчэ некалькі дзесяткаў чалавек. Пры гэтым людзей жорстка збівалі, але рэпрэсіўныя метады уладаў улівалі ў шэрагі дэманстрантаў усё новых людзей. Калі ў пачатку маніфестацыі колькасць яе ўдзельнікаў складала каля трохсот чалавек, то каля ГУМа яе колькасць дасягнула 3—4 тысячаў. І зноў, як і 26 красавіка, пацярпелі грамадзяне, якія не ўдзельнічалі ў акцыі пратэсту. Арыштаваны супрацоўнік Цэнтра «Беларуская перспектыва» Віктар Івашкевіч, які вяртаўся дахаты з пасяджэння канферэнцыі, наладжанай фондам.

Відавочна, што досвед папярэдніх акцый не пайшоў сілавым структурам на карысць, стаўка зноў робіцца на грубую сілу, чаму пацвярджэннем з'яўляецца каля сотні затрыманых грамадзян і вялікая колькасць збітых да крыві. Вось рэакцыя сённяшняй улады на салідарнасць з прадстаўнікамі братняга славянскага народа.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Да Максіма




Выступае Вера Рыч.

25 траўня каля помніка Максіму Багдановічу ў Менску адбылося традыцыйнае ўшанаванне памяці вялікага паэта Беларусі. Нацыянальны каларыт свята падкрэслівалі бел-чырвона-белыя сцягі і харугвы патрыятычных арганізацый (ТБМ імя Ф.Скарыны, БНФ «Адраджэнне», суполак «Пагоня» і «Спадчына»), плакаты і стужкі, развешаныя на дрэвах вакол помніка. Да бронзавага Максіма прыйшлі прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, грамадскія дзеячы, студэнты, рабочыя, супрацоўнікі музея паэта. Іх было больш, чым заўсёды. Больш чым заўсёды падаспела сюды і «стражаў парадку», каб пракантраляваць «у іншай палітычнай сітуацыі» дзеянні «нацыяналістаў». Сваё слова пра паэта сказалі дырэктар музея Багдановіча Алесь Бяляцкі, паэты Алесь Разанаў і Міхась Скобла, мастак Аляксей Марачкін, палітык і перакладчык Лявон Баршчэўскі і іншыя. Вядомая беларусістка Вера Рыч з Вялікабрытаніі прачытала ў сваім перакладзе на англійскую мову славутую Максімаву «Пагоню». Барды Алег Атаманаў, Едрусь Акулін і Алесь Камоцкі выканалі некалькі сваіх і народных песняў. На адыходзе ўдзельнікі ўрачыстасці праспявалі разам «Зорку Венеру». На жаль, не абышлося без «лыжкі дзёгцю»: міліцыя ўсё ж затрымала некалькі ўдзельнікаў імпрэзы.

**Ірына КРЭНЬ.**
**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**



Здымак на ўспамін.

## Настаўнікі-патрыёты Віцебска за беларускасць

Адбыўся сход віцебскіх настаўнікаў беларускай мовы і тых, што вядуць выкладанне сваіх дысцыплін па-беларуску. Прынята Заява, у якой адзначаецца неадэкватнае па-трабаванням часу і існуючай рэчаіснасці паслабленне ўвагі з боку дзяржаўных структур да нацыянальнай адукацыі.

Настаўнікі-патрыёты выказваюць сур'ёзную заклапочанасць фактычным грэбаваннем беларускай мовай і культурай на дзяржаўным узроўні, скарачэннем колькасці класаў з беларускай мовай навучання, недастатковай колькасцю падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове па розных прадметах.

Сход падтрымаў патрабаванні віцебскай грамадскасці, надрукаваныя ў газеце «Наша слова» 28 лютага 1996 г., а таксама «Пастанову пашыранага пасяджэння прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў», апублікаваную ў «ЛіМе» 3 траўня 1996 г., і лічыць, што надышоў час станоўча вырашаць пытанне на карысць беларускамоўнага навучання.

Сход настаўнікаў звярнуў увагу мясцовых уладаў на тое, што ўжо мінуў тэрмін, калі павінна было быць станоўча вырашана пытанне аб адзінай на ўвесь горад 1-й беларускамоўнай нацыянальнай гімназіі.

**В.АРЛОЎ, старшыня Віцебскай гарадской Рады ТБМ.**

Рэха

# Абалваньванне народа — злачынства супраць чалавечнасці

Прачытаў у «Нашым слове» артыкул «Тэлежурналістка Хрушчова ў якасці штурмавіка». Нізка схіляю сваю сівую галаву перад сапраўднымі грамадзянамі, якія не пабаяліся, нягледзячы на запалохванні, выйсці на мірны мітынг, каб разам і прынародна выказаць сваю заклапочанасць сур'ёзнымі парушэннямі канстытуцыйных правоў народа.

Украінская журналістка Наталля Чынгулі выказала думку аб тым, што сілавы «накат» на дэмакратычную грамадскасць сведчыць пра вырошчванне ў нас «новага віруса» — камунафашызму! Аднак яна памыляецца, што гэта нешта навенькае. Монстр даўно ўзгадаваны злачынным камуністычнай сістэмай, проста праяўляе свае новыя якасці, але мэта ягоная ўсё тая ж — фізічнае знішчэнне або поўнае маральнае падаўленне прадстаўнікоў Разумнага і Добрага, каб бязмежна панаваць над ціхмянымі рабамі. Монстр гэты мае аднолькавае аблічча — што ў нас, што на Украіне. Дастаткова толькі ўважліва пачытаць пасланне ўкраінскіх пракамуністычных дэпутатаў нашым. Вынікі яго дзейнасці даюцца ў нас і ў Расіі. Таму яна, самая вялікая ў свеце па плошчы і магутнейшая па сыравінна-энергетычных магчымасцях, па-жабрацку цягне руку па гуманітарную дапамогу ад краін сталай рынкавай эканомікі, у тым ліку куды меншых за яе па памерах. А выбары пра што сведчаць! За час камуністычнага панавання гэты калос аказаўся даведзеным да стану, калі са 150 мільёнаў насельніцтва амаль няма каго выбіраць на пасаду прэзідэнта. З усіх кандыдатаў найбольшай увагі заслугоўваў прафесар С.Фёдараў, аднак імперскія і пракамуністычныя погляды вялікай масы расійцаў не далі магчымасці ўзняць гэтага чалавека да самай важнай для нармальнага развіцця краіны пасады. Грамадзянская вайна, сталінскія рэпрэсіі, знішчэнне нацыянальна свядомых, самастойна мыслячых гаспадарлівых людзей даюцца ў знакі і ў нас. Яна, гэтая страшэнная камуністычная сістэма, падрыхтавала для Беларусі тое, што маем, калі вядзецца бязлітасная вайна з мовай, а значыць, душой народа, калі ствараюцца такія ўмовы, пры якіх беларусы самі мусяць выступіць забойцамі сябе як нацыі. Зноў выкарыстоўваецца бессэнсоўнае словазлучэнне «савецкі народ», «общее»(?!) отечество». І ўся гэтая абалваньваючая бязглуздзіца ўбіваецца ў галовы людзей праз поўнасцю манапалізаваныя выканаўчай уладай сродкі электроннай масавай інфармацыі. Усё робіцца прымітыўна, але нахабна ад адчування ўласнай беспакаранасці. Вось і дазваляе сабе каментатар Хрушчова ў тэлеэфіры абражаць прадстаўнікоў сукупнага нацыянальнага інтэлекту. А як яна, аказваецца, паводзіла сябе са старымі жанчынамі ў час мітынгу, дык увогуле ў галаву не ўкладваецца.

У многім не лепшыя паводзіны і «тэлехлапчука» — напарніка гэтай Хрушчовай. Так, 13 траўня ён нахабна адурманьваў тэлегледачоў, кажучы, што 80 працэнтаў беларусаў выказаліся ў час рэферэндуму за аб'яднанне з Расіяй. Бо, па-першае, не беларусаў, а грамадзян Беларусі, сярод якіх у гарадах (з улікам дзяцей і ўнукаў) ці не кожны трэці — расіец, якому таксама імперцы ўбілі ў галаву, што ён «прынёс беларусам высокую культуру», а таксама нас «вызваляў», «адбудоўваў» і г.д. Па-другое, тое пытанне для рэферэндуму было далёкім ад **палітычнага** аб'яднання з некім і мела наступную фармуліроўку: «Ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на **эканамічную** інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?» Рэчы розныя! І нават пры гэтым сама форма пытання **не катэгарычная**, а **дарадчая**. Гэта нават без стылістаў-філолагаў кожнаму разумнаму чалавеку ясна.

І яшчэ. Урэшце і на такую форму запытання станоўча адказалі толькі 53,08 працэнта ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Значыць, «тэлехлапчук» ці па недасведчанасці і прафесійнай непадрыхтаванасці, ці свядома абдурвае тэлегледачоў? Выкарыстоўвае магчымасць праз дзяржаўны тэлеканал узддзейнічаць словам на масы насельніцтва дзеля антынароднай мэты?

Аналагічнае можна сказаць пра тых журналістаў, якія падобнымі спевамі займаюцца ў афіцыёзных газетах. А найбольш мяне здзіўляе Павел Якубовіч, цяперашні галоўны рэдактар «Советской Белоруссии». Помню, як ён, калі працаваў у часопісе «Крыніца», адпаведным рэдагаваннем надаваў маім стрыманым артыкулам рэзкую антысавецкую накіраванасць. Помню яго ваякам супраць камуністычнай імперскасці ў часы росквіту «Народнай газеты». А цяпер павярнуў аглоблі амаль што на 180 градусаў. Што здарылася з сапраўды таленавітым журналістам? «Камуністычнае прасвятленне» ці проста карыслівае прыстасаванства за «хлебную» пасаду? Вялікія грошы? Я не прыхільнік лічыць іх у чужых кішэнях, але няхай яны будуць зароблены карыснымі для грамадства справамі. Дэбілізацыя насельніцтва — гэта немінучая пагібель для народа. «Запудрываць» людзям мазгі з дапамогай газет і тэлебачання — гэта амаль тое ж, што біць прафесараў дубінамі па галаве. Пераконваць 10-мільённае насельніцтва, што яно непрыгоднае на самастойнае існаванне як нацыя, а можа быць толькі прыслугаю ў некага, «рабсілай» — гэта, па вялікаму рахунку, з'яўляецца вялікім злачынствам супраць чалавечнасці.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар,**
**інвалід вайны з гітлераўскім фашызмам.**

Культурнае жыццё



У Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі, які адбыўся пятнаццаты раз у Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства, удзельнічалі лепшыя царкоўныя ды аматарскія і прафесійныя харавыя калектывы з трынаццаці краін. У Гайнаўскім саборы выступалі царкоўны хор з Віцебска, камерны хор з Пружанаў, Дзяржаўны хор радыё і тэлебачання Беларусі.

Усе нашыя калектывы адзначаны ўзнагародамі, кіраўнік Дзяржаўнага хору радыё і тэлебачання Беларусі прафесар Віктар Роўда атрымаў Вялікі Ганаровы прыз.

Фестываль «Гайнаўка-96» завяршыўся гала-канцэртам у саборы Святой Тройцы і ў Беластоцкай філармоніі.

**На здымку:** Прафесар **Віктар Роўда** з прызам.
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

У газетах

## «З днём нараджэння, чалавек!»

«...За апошнія трынаццаць год у вёсцы Нявовы Валожынскага раёна ні разу не спраўлялі радзіны. Усё больш, як гэта ні сумна, хавалі яе насельнікаў, сярод якіх пераважная большасць пенсіянераў.

Нават школу-дзесяцігодку некалькі год таму перанеслі ў суседняе Адамава — цэнтр калгаса. Там шмат маладых сем'яў. Да нядаўняга часу будавалася жыллё — ёсць каму хадзіць у школу. З Няроў жа — вёскі ў восемдзесят двароў — толькі двое вучняў і тыя старшакласнікі.

Але наш суровы час, здаецца, пачынае ўносіць свае карэктывы ў жыццё. Адсутнасць жылля і работы ў горадзе ўсё часцей вымушаюць моладзь заставацца ў бацькоўскім доме. Асела некалькі маладых сем'яў і ў Няровах. На радасць родным ды ўсім вяскоўцам, у адной з іх — Марыны і Аляксандра Біталёў — нядаўна нарадзіўся блакітнавокі сынок Андрэйка. Упершыню за трынаццаць гадоў вёска пачула нованароджанага жыхара!

З нагоды яго суседка, настаўніца Фаіна Драгун, напісала цэлую паэму. Ёсць у ёй і такія радкі:

*«З днём нараджэння, чалавек!*
*Хай светлым будзе ўвесь твой век.*
*Расці на радасць усім здаровы.*
*Радзіўся ты — жывуць Няровы!»*

**(«Рэгіянальная газета», № 21, 1996 г.)**

## Мікола Ермаловіч даваў аўтографы...

«...У перапоўненай актавай зале Маладзечанскай гарадской бібліятэкі імя М.Багдановіча адбылася вечарына, на якой ушаноўвалі 75-гадовага юбіляра, ганаровага жыхара Маладзечна, знакамітага гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Міколу Ермаловіча.

Імяніннік на гэты раз даваў прыхільнікам ягонага таленту аўтографы, не прыпадаючы да саміх старонак сваіх кніг «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытная Беларусь», бо афтальмолагі паправілі ягоны зрок. Але ўсё ж на пытанне пра будучыя планы адказаў: «Напэўна, хутка спынюся, бо летапісы чытаю ўсё роўна праз лупу».

— ...Амаль 50 гадоў жыў побач з намі Мікола Іванавіч Ермаловіч, — сказала загадчыца аддзела культуры гарвыканкама Надзея Іванаўна Сідарэнка. — Таленавітых людзей мала, а мужных — яшчэ менш...

І, сапраўды, талент, апантанасць, настойлівасць, мужнасць і ўпэўненасць у сваёй праваце і ў тым, што яна ўсё роўна возьме верх, — вось адметныя рысы Міколы Іванавіча. Адзін толькі штрых: кніга «Па слядах аднаго міфа» ўбачыла свет толькі праз 21(!) год пасля яе напісання. Але ўсё ж убачыла і знайшла свайго чытача, знайшла сваё месца ў бібліятэках і карыстаецца ўстойлівым попытам...

Юбіляра віншавалі старшыня гарадскога Савета дэпутатаў Вікенцій Сірота, намеснік старшыні райвыканкама Барыс Бароўскі, рэдактар «Маладзечанскай газеты» Аляксандр Хазянін. Праспявалі песні беларускіх бардаў Алесь Капуцкі. Сваю міні-паэму, прысвечаную віноўніку ўрачыстасці, прачытала сябра літаб'яднання «Купалінка» Алена Ліхадзіеўская-Краўчанка. Ад мясцовай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны словы ўдзячнасці выказалі Валерый Костка і Леанід Цімохін, якія ўручылі юбіляру памятны падарунак»...

**(«Маладзечанская газета», № 48, 96 г.)**
**Прачытаў А.М.**

Уражанні

# Выпадак у дарозе, ці Яшчэ адна гісторыя пра беларускую ментальнасць

Калі хто хоча паслухаць сапраўднай беларускай мовы, раю завітаць хоць б на аўтавакзал у Маладзечне.

Сюды вясковыя цёткі-дзядзькі з'язджаюцца, як і некалі, з немалога геаграфічнага абшару ў свой адмысловы аўтарытэтны рэгіянальны цэнтр (месца) па розных справах.

І вось гучыць на аўтавакзале родная гамана, пераліваецца крачёвае слоўца рознымі лексічнымі фарбамі, і верыцца, што ніякія панславянскія «злівальнікі» яго не знішчаць, пакуль жыве адметны сваёй ментальнасцю характар вось гэтых людзей — чуллівы да чужога гора, асцярожны на знясламе па-за вачыма, прагавіты на тварэнне дабрыні...

Нездарма кажуць: мова — люстра душы народа.

...Кіруючы з Менска, я меўся зрабіць у Маладзечне перасадку — трэба было па рэдакцыйных справах трапіць у Вілейку. А да яе з усімі слупамі, ля якіх стары «ЛАЗік» спыняецца звычайна, каля гадзіны ходу.

Дзесьці ў пачатку 12-й гадзіны на пляцоўку падалі аўтобус, шафёр адчыніў пярэднія дзверы і, правяраючы білеты, пачаў запускаць людзей у салон.

На вялікі жаль, натоўп, які да таго мірна абсяджваў лаўчыны, усхадзіўся: кожны стараўся апярэдзіць іншага, каб «здабыць» зручнейшае месца. Калі я і яшчэ некалькі мужчын, перачакаўшы штурханіну, у ліку апошніх рыхтаваліся зайсці ў аўтобус, адтуль выскачылі лысаваты мажны мужчына ў гадах і маладзейшая за яго гадоў на 10 паўнаваценькая кабета.

На вачах жанчыны блішчэлі слёзы, у мужчыны твар быў перакошаны ад роспачы.

— Товарищи! — звярнуўся ён да нас па-расійску. — Вы случайно не замечали под ногами кошелек? Понимаете, кошелек у жены из сумочки пропал. Едем к матери в Докшицы издалека. Везли ей немного деньжат на житье-бытье...

Аўтаматычна, як па камандзе, мы зірнулі пад ногі, але на асфальце, на відавоку, ніякіх пуляррэсаў з жаноцкіх сумачак ніхто з нас не заўважыў. Зазірнулі пад аўтобус у «раёне» пярэдніх дзвярэй — той самы вынік...

І тады няшчасны «расіец» (а, мо, і наш беларус, навучаны казаць па-расійску) аб'явіў:

— Вы, товарищи, не обижайтесь, но я не исключаю того, что человек, который нашел кошелек, находится здесь. Я прошу по-хорошему: лучше отдайте, верните нам его. Перед всеми, вот, обещаю в знак благодарности за возврат находки вручить четвертую часть денег, которые там находятся...

Пасажыры пачалі чамусьці вымацваць што ў каго было ў кішэнях, торбах ды авоськах ды паказваць адзін аднаму...

— Мо на самой пляцоўцы вас абрабавалі? — казала да заплаканай кабеты адна цётка пенсійнага ўзросту. — Я нават, даражэнькая, бачыла, як ля цябе круціўся адзін хударлявы мужык. Такі, невялічкага росту, гадкоў пад сорак... Бомж, мусіць.

— Да не будзе бомж грошы красці, — пярэчыў гэткага ж узросту мужчына ў моцна паношаным зашмальцаваным брылі. — Бомж, калі што і спёр бы, дык торбу з харчам. За грошы — турма свеціць.

Размову зноў перапыніў пацярпелы:

— Товарищи! Поскольку никто из вас в добровольном порядке не желает вернуть деньги, я решил, что при выходе каждый из вас разрешит мне произвести осмотр ваших карманов и сумок, которые при вас. Я имею отношение к органам, но не хочу просить водителя вести вас в местный РОВД для подробного досмотра...

— Трэба, значыць трэба! — пачуліся галасы ў адказ. — Як скажаш, так хай і будзе!..

— Поймите правильно: у нас с женой не осталось ни рубля. Даже нет денег, чтобы в Вилейке купить билет на Докшицы, куда мы добираемся, — апраўдваў акцыю, якую меўся ўчыніць з намі, «пацярпелы» дзядзька з «органаў».

Ніхто чалавека гэтага не асуджаў. Кожны, відаць, разумеў становішча, у якое на аўтавакзале патрапілі няшчасныя людзі. Хаця ў душы, мусіць, многіх, як і мяне, абражала-такі працэдура агляду.

Мужчына гэты стаяў побач з кабінай шафёра. На другім ці трэцім прыпынку ён нават абшукаў нейкага дзеда: праверыў кішэні, абмацаў звонку — зверху ўніз — астатнюю вопратку.

І раптам нехта з жанчын прапанаваў:

— Людзцы, мае землячочкі, няўжо нам не шкада іх? Давайце па пяць тысячаў скінемся: хай даедуць да сваіх Докшыцаў — дамо на білет, паможам!

Машына прыпынілася. Пасажыры вымалі грошы і аддавалі іх — хто самому абкрадзенаму, хто — ягонай жонцы. Давалі не меней пяці тысячаў, а хто нават больш таго...

— Таварышы, даражэнькія, даруйце... дзякую! — раптам перайшоў на беларускую гаворку чалавек з «органаў», які з паўгадзіны таму рыхтаваўся ўсіх абшукваць.

А мне чамусьці прыгадалася прымаўка: «Як прыцісне, дык і Кузьму бацькам назавеш...» Вось як пачаў гаварыць на мове беларусаў...

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# Даты і падзеі ў чэрвені

**14-15** — 5 гадоў таму адбыўся другі з'езд ТБМ імя Ф.Скарыны.

**15** — 290 гадоў таму А.Меншыкаў з войскам маскоўскім і казацкім прыйшоў да Магілёва і стаў «ля гары Мышакоўкі».

**16** — 755 гадоў таму адбылася бітва пад Легніцай (каля Уроцлава, Польшча), дзе мангольская арда разбіла войска шлёнскага князя Генрыка Набожнага. Гэтая параза паклала крэс ягонай спробе аб'яднаць вакол свайго ўладання іншыя ўдзельныя княствы. Як вядома, Батый захапіў шмат якія рускія княствы, спаліў Кіеў ды галіцкія і валынскія гарады, але пасля бітваў пад Гомелем і Берасцем не адважыўся пайсці на нашыя землі. І перашкодай яму былі не балоты, а магутнасць Полацкага і Навагарадскага княстваў. Навагарадскім князем у гэты час (з 30-х гадоў XIII ст.) быў нашчадак полацкага княскага роду Мендог, які пачаў аб'яднанне зямель міжрэчча Буга, Нёмана, Прыпяці, Дняпра, Дзвіны.

— 290 гадоў таму, як падае Магілёўская хроніка, «...ад маскалёў уночы крадзежа, а ў дзень ушчэрбак і крыўда крамнікам дзеялася...»

— 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Хрусталёва, мастака і педагога.

— 85 гадоў з дня нараджэння кампазітара Дзмітрыя Лукаса.

**17** — 300 гадоў таму памёр кароль Рэчы Паспалітай (кароль Польшчы і вялікі князь ВКЛ) Ян III Сабескі. За ягонае праўленне Рэч Паспалітая вяла барацьбу з Турцыяй. Войска Рэчы Паспалітай на чале з Янам III Сабескім перамагло туркаў пад Хоцінам (1673 г.) і пад Венай (1683). Паводле «Вечнага міру» 1686 г. Рэч Паспалітая і Расія ўвайшлі ў антытурэцкую кааліцыю.

— 190 гадоў з дня нараджэння Міхала Валовіча, паўстанца 1830-1831 гг.

**18** — 85 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шыдлоўскага, дзеяча самадзейнага мастацтва, кампазітара («Колькі ў небе зор»), педагога.

— 55 гадоў таму пачался запаўненне вадою Камсамольскага возера (вадасховішча на Свіслачы) ў Менску (адкрыццё адбылося 22 чэрвеня).

**19** — 565 гадоў таму вялікі князь ВКЛ Свідрыгайла, што парваў унію з Польшчай, заключыў трактат з Лівонскім ордэнам, які падтрымаў яго ў барацьбе за ўладу ў ВКЛ.

— 80 гадоў таму войскі 4-й расійскай арміі Заходняга фронту правялі беспаспяховую наступальную аперацыю на ўчастку Гарадзішча—Баранавічы.

— 70 гадоў таму ў Вільні выйшаў першы нумар газеты «Народная справа», органа Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

**Падрыхтаваў З.С.**

# Наведаць вязня — мой святы абавязак

*Пад час амаль месячнага знаходжання ў турме лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка іх са святарскай паслугай наведаў грэка-каталіцкі святар. Мы прапануем увазе чытачоў размову з упраўляючым дэканата Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, сябрам Рады ТБМ протапрэсбітэрам айцом Янам Матусевічам.*

**— Айцец Ян, скажыце, калі ласка, як вам удалося атрымаць дазвол на адведванне ў турме палітзняволеных Сіўчыка і Хадыкі?**

— Гэта было не вельмі проста. Да мяне звярнулася маці Вячаслава Сіўчыка з просьбай адведаць іх у турме.

Яшчэ ў савецкія часы заканадаўства прадугледжвала наведванне шпіталяў і турмаў святарамі, але на практыцы яны не маглі выкарыстаць гэтае сваё права. Калі я працаваў у Ашмянскім раёне ў касцёле, то мусіў прыязджаць па просьбе родных хворых у шпіталь у той час, калі адміністрацыя шпіталя скончвала працоўны дзень, нібыта каб яны гэтага не ведалі, а яны аб усім ведалі, але заплюшчвалі вочы. Такім чынам я спавядаў і прычашчаў людзей. Што тычыцца турмы, то я ўпершыню пераступіў парог гэтай установы ў 1992г. Будучы сябрам Цэнтральнай Управы Біблейнага таварыства я прывёз Бібліі для вязняў менскай турмы па вуліцы Кальварыйскай. Тады я запытаў у начальніка турмы, ці мог бы я адведваць вязняў. Атрымаўшы дазвол, я некалькі разоў прыязджаў да іх і адпраўляў набажэнствы. Тут жа, пасля просьбы маці Вячаслава, мне патэлефанаваў а.Аляксандр Надсан з Лондана і запытаў, ці планую я наведванне вязняў. Таксама мне тэлефанавалі з радыё «Свабода» і іншых радыёстанцый. Я адказаў, што гэта мой душпастырскі абавязак, але на гэта трэба браць дазвол. На гэты час якраз прыпадалі святы Дня Перамогі, да святаў атрымаць дазвол не ўдалося, і я аднавіў гэтыя захады пасля выхадных. Я выйшаў на пракурора Менска Купрыянава, і ён даў дазвол на 15 траўня. Чатырнаццатага я прыехаў да адміністрацыі турмы па вуліцы Валадарскага, каб высветліць, якім чынам я магу ўсё зрабіць. Намеснік начальніка СІЗО прыняў мяне досыць ветліва і запытаў, што я буду там рабіць. Я кажу, што мушу правесці з вязнямі душпастырскую размову, а таксама іх паспавядаць і прычасціць. Ён запытаў, ці магчыма ўсё гэта зрабіць сёння. Кажу, магу, але не маю пры сабе святых дароў і растлумачыў яму, што гэта такое. Я паехаў у Чырвоны касцёл, узяў дары і вярнуўся. Мяне павялі ў кабінет аднаго з начальнікаў турмы, куды павінны былі прывесці зняволеных. Я думаў паспавядаць спачатку аднаго, потым другога і разам іх прычасціць, але начальства турмы дазволіла размаўляць толькі з кожным паасобку. Яшчэ нагадаў ахове, што існуе таямніца споведзі і таму я павінен знаходзіцца сам-насам з вязнем. Гавораць, не, мы павінны за ім назіраць, але знайшлі выйсце і з гэтага становішча. Адміністрацыя выдзеліла большы пакой, каб я мог спавядаць у адным канцы, а ахова знаходзілася ў другім і магла б толькі назіраць, не чуючы самой споведзі. Сіўчык выглядаў вельмі дрэнна, спадар Хадыка — трохі лепей. Перад гэтым маці Славы прасіла мяне пераканаць яго спыніць галадоўку, аб гэтым прасіў і Юрый Віктаравіч Хадыка. Я перадаў яму гэтыя просьбы, але ён сказаў: прабачце, айцец Ян, але я мушу датрымацца да канца.

**— А як успрынялі ваш візіт самі вязні, якая была іх рэакцыя?**

— Вельмі станоўча, можна сказаць, нават са слязамі на вачах. Пасля да мяне прыйшла маці Сіўчыка і дзякавала за тое, што я да іх прыйшоў. Пасля таго, як іх ужо выпусцілі, Вячаслаў сказаў ёй, што калі б не прыход святара, то, магчыма, можна было б зламацца. І думаю, гэта ім дапамагло ў духоўным плане.

**— Скажыце, а якое ў вас уражанне ад турмы і тых умоваў, у якіх знаходзяцца вязні?**

— Вядома, турма — не санаторый, але ў ёй чалавек раскрываецца ў поўні сваёй душы. Калі чалавек на волі нягоднік, у турме ён будзе яшчэ большым нягоднікам, а калі чалавек высокай маральнасці, то ў турме яшчэ больш загартоўваецца і набірае духоўную моц.

**— А Грэка-Каталіцкая Царква праводзіла якія-небудзь акцыі ці набажэнствы ў падтрымку Хадыкі і Сіўчыка?**

— Кожны дзень мы маліліся ў іх інтэнцыі, а на Сёмуху яны прыйшлі да мяне на набажэнства і дзякавалі мне за ўсё. Літургія Службы Божай у гэты дзень была ахвяравана за Беларусь, за яе будучыню, незалежнасць і шчасце. Маліліся яшчэ за тых палітзняволеных, якія яшчэ сядзяць у турмах на Беларусі і ў тых краінах, дзе парушаюцца правы чалавека. І за тых, хто загінуў за волю і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, прасілі ў Бога ласкі і апекі для Беларусі, каб для яе надышлі лепшыя часы. Таксама рэгулярна адпраўляю літургію ў інтэнцыі іх хутчэйшага вызвалення а.Аляксандр Надсан у Лондане.

**— Ваш візіт да палітзняволеных — не толькі святарскі абавязак, але ў сённяшніх варунках і грамадзянскі ўчынак, вам не было страшна?**

— Ніколькі. Я ішоў у турму, ведаючы, што мяне ў гэтай справе падтрымлівае Бог, бо гэта мой абавязак. Мы ведаем з катэхізму, што трэба галодных накарміць, тых, што распрануты, адзець, хворых і вязняў наведаць — гэта абавязак кожнага хрысціяніна. Так што ў мяне ніякага страху не было. Больш таго, я знайшоў спачуванне і з боку работнікаў СІЗО. Яны прасілі пераканаць вязняў спыніць галадоўку, бо стан іх здароўя з кожным днём пагаршаўся. Я сказаў, што перадам ім, але кожны чалавек мае права на свае перакананні. Тым больш, каб яны былі нейкімі злачынцамі, а іх пасадзілі за перакананні, і ніякай іх віны ні перад Богам, ні перад дзяржавай і людзьмі.

**— Скажыце, а на гэты ваш учынак адрэагавалі якія-небудзь сродкі масавай інфармацыі?**

— Так, безумоўна, я даваў інтэрв'ю для радыё «Свабода», газеты «Имя» і для іншых СМІ, але, на жаль, мне незразумела, чаму газета «Свабода» не дала аб гэтым ніякай інфармацыі. Была невялікая нататка, што ў Гародні ў касцёле была адпраўлена імша ў інтэнцыі вязняў, і гэта было прыемна чытаць. Можа яны аб гэтым не ведалі, але наўрад ці, бо іншыя СМІ перадалі ўжо гэтую інфармацыю, а, на жаль, тая газета, якую я чытаю з самых першых яе нумароў, нічога не паведаміла.

**Размаўляў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## З нагоды!

# Нерэабілітаваная пакутніца за Беларусь

*Мінула роўна чатыры дзесяцігоддзі з таго самага дня, калі «камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30.05.1956 г. абвінавачванне прызнала абгрунтаваным, але тэрмін пакарання быў зменшаны да 8 гадоў».*

Гэта цытата з артыкула біяграфічных звестак пра Ларысу Геніюш у новым даведніку беларускага Саюза пісьменнікаў.

Вельмі горка, што і пасля смерці адной з самых нявінных ахвяраў сталінізму Пракуратура Беларусі не выправіла памылку згаданай камісіі таго самага Прэзідыума ВС СССР і не ўзняла пытанне поўнай рэабілітацыі цудоўнейшай паэткі і шчырай патрыёткі нашай Радзімы.

Гэта трэба ўжо не ёй, гэта трэба жывым.

...У каторы раз гартаю кнігі Ларысы Геніюш, якія маю ва ўласнай бібліятэцы. На вялікі жаль, я позна адкрыў для сябе гэтую паэтку, бо ў савецкі час да мяне, яшчэ студэнта, даходзілі толькі чуткі пра гэтага выдатнага майстра роднага слова і патрыёткі ды асобныя вершы ў перыядычным друку. Я адкрыў для сябе веліч і годнасць Ларысы Геніюш толькі ў тыя часы, калі пачаўся рух за адраджэнне роднай мовы, культуры і беларускай гісторыі без «белых плямаў», калі пачалася рэабілітацыя паэтаў-пісьменнікаў з эміграцыі.

І вось перачытваючы творы, кожны раз захапляешся Ларысай Геніюш як выдатным творцам і высакародным чалавекам. Нямала і цудоўных паэтычных радкоў яна прысвяціла беларускай мове, лёсу, наканаванасці тых, хто нясе гэтае слова ў народ. Так, ужо ў першым паэтычным зборніку «Ад родных ніў», выдадзеным у 1942 годзе ў Празе, дзе Ларыса Геніюш жыла разам з мужам Іванам Геніюшам і сынам Юркам у эміграцыі, паэтка змясціла адметны верш «Родная мова». Працытую тут хаця б некалькі строф з таго твора:

*«Мова родная, мова дзядоў!*
*іншай мовы мы сэрцам ня чуем.*
*Мілагучнасцю любых нам слоў,*
*быццам музыкай душу чаруем.*
*Мы за вокнамі дзень залаты,*
*нашых рэкаў пявучыя хвалі,*
*роднай хаты святыя куты*
*ў гэтай мове раз першы назвалі...*
*Так балюча і гэтак даўно*
*стогне любы народ ў паняверцы;*
*ты адна толькі ясным прадном*
*нам снуешся праз нівы, праз*
*сэрцы...»*

А колькі слушнага пра мову, пра яе драматычны лёс у аўтабіяграфічнай, легендарнай «Споведзі»!

**«...Я вельмі хутка навучылася па-чэску і ўсюды ўжо магла даць сабе рады. Культура, якую я вынесла са сваяго дому, нічуць не ўступала хвалёнай эўрапейскай... Мне падабалася, што на вуліцах цудоўнай Прагі мы свабодна гутарылі на роднай мове й ніхто не паказваў на нас пальцамі, не высьмейваў нас і не прасьледваў...»**

**«...О мае ненароджаныя Купалы, можа, Багдановічы, а можа, і Кастусі... Засталіся зубры ў Белавежы, якіх, праўда, па-расейску гутарыць не навучаць, яны ня людзі».**

**«...Дык пытаюся: «Ну, калі мы ўжо такія па-вашаму нікчэмныя, пасыўныя, дык скажыце, а нам дазволілі б мець, напрыклад, у Ваўкавыску, свае школы?» — «Это я могу сказать — никогда!»**

**«...Ёсць, праўда, Акадэмія навук у нас, але на ўсю Беларусь, як яна шырокая й даўгая, няма ніводных дзіцячых ясьляў на нашай мове... Ёсць школы з ангельскай, з француззкай мовамі выкладаньня, але на ўсю сталіцу Менск няма ніводнай школы з беларускай мовай выкладаньня...»**

Не я адзін, звычайны журналіст, літаратар, запознена адкрываў для сябе Ларысу Геніюш. Нават на Захадзе такое было. Патрыярх і класік беларускай эміграцкай літаратуры Масей Сяднёў зазначыў: «Як паэтэсу вялікага калібру, таленавітую, арыгінальную я ацаніў толькі цяпер, угледзеў ейную значнасць, прачытаўшы ейны зборнік «Невадам з Нёмну» і асабліва — некалькі ейных цыклаў выгнанніцкіх вершаў... Ларыса Геніюш паўстала перада мной на ўсю сваю веліч як паэтэса-грамадзянка. Я не бачу ёй роўнай у нашай жаночай паэзіі... «Споведзь» Ларысы Геніюш падкупляе сваёй непадробнасцю, маральнай вышыней і падчас зайздросным бляскам выкладу...» («На суд гісторыі», Менск, 1990 г.)

Вось як было «схавалі» сталіністы ад беларускага народа ягоную руплівіцу і верную дачку! Сталінісцкі суд, як вядома, ставіў ёй у віну сувязь з эміграцкім урадам БНР. А каб выглядала «страшней», прыпісваў яшчэ сувязь з гітлераўскім акупацыйным рэжымам.

Сёння, калі мы ведаем пра Ларысу Геніюш усё, зразумела, што гэта чорная хлусня. Паэтэса, якая бараніла ад «апекавання» чужынцаў беларускі народ, яго мову, культуру, духоўнасць, яго святыні (у тым ліку бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня»), перад сваёй Радзімай віны не мае.

Так, яна адносілася, як да акупантаў, да польскіх пілсудчыкаў і савецкіх камісараў. Але яна ніколі не прадавала ні фашыстам, ні польскай дэфензіве, ні кэдэбістам. Яна, не прызнаючы савецкай улады, якая ў 1939 годзе забіла яе бацьку ды рэпрэсавала маці, іншых родзічаў, жыла ў эміграцыі, пачуваючы грамадзянкай менавіта БНР. Яе і ейнага мужа кэдэбісты нахабна выкралі з Прагі і загналі ў ГУЛАГ. Але і пасля, жывучы на сваёй радзіме ў Зэльве, нягледзячы на прымус і запалохванні, яна не прыняла савецкага грамадзянства.

Не здрадзіла яна свайму народу духоўна і перад гітлераўскімі «звышчалавекамі» — ні ў адным вершы не пахваліла ні шалёнага фюрэра, ні ягоны рэжым. Хаця акупанты яшчэ ў Празе нагадалі ёй, што гэткая ўсхвала з-пад яе пяра надзвычай пажадана для яе ж дабрабыту і бяспекі. Ну, а дзеля чаго яна, шчырая беларуская патрыётка, павінна была хваліць сталіністаў? За тое, што лідэры бальшавіцкай дзяржавы на сваю ж галаву выпесталі германскі фашыстоўскі ўрад Гітлера, з якім нават ладзілі ў 1939 годзе ў Бярэсці агульны вайсковы парад? За тое, што Беластоцкі край аддалі назусім адной дзяржаве, а Віленскі — другой? А яшчэ раней гандлявалі Заходняй Беларуссю то з Польшчай, то з Германіяй?

А калі зірнуць на жалобную хроніку сям'і Ларысы Геніюш...

**1937 год** — Ларыса Геніюш з'язджае са здратаванай і запалоханай пілсудчыкамі Беларусі да мужа ў Прагу. Па сутнасці, ратуецца ад непазбежных у блізкай перспектыве рэпрэсій.

**1939 год** — ні за што арыштаваны і забіты савецкімі чэкістамі бацька Л.Геніюш.

**1945 год** — у ГУЛАГаўскай высылцы ў Казахстане памірае яе маці. Пад Берлінам у складзе Чырвонай Арміі гіне брат Расціслаў. Другі брат Аркадзь у гэтым жа годзе, ваюючы супраць фашыстаў у складзе арміі генерала Андэрса, таксама гіне.

**1948—1956 гады** — выкрадзеныя з эміграцыі Ларыса ды Іван Геніюшы адбываюць лютую ГУЛАГаўскую катаргу.

**1954 год** — у Вроцлаве (Польшча) пры «загадкавых акалічнасцях» памірае сястра Люся.

**1985 год** — пры гэткіх жа «акалічнасцях» у той жа Польшчы гіне сын Юрка.

Вось што прынёс імперскі камуністычны рэжым Ларысе Геніюш і яе сям'і: забойствы блізкіх, катаргу. А яшчэ — эміграцыю, у тым ліку і ўнутраную, калі нельга свабодна карыстацца роднай мовай, ісці на дэманстрацыю пад гістарычнай беларускай сімволікай, адкрыта выказваць свае думкі...

Жыццё і творчасць Ларысы Геніюш вучаць, як трэба даражыць народу тым, што характарызуе нас усіх як нацыю, як трэба мужна і непахісна змагацца за беларушчыну, за сваю нацыянальную адметнасць, каб жыць па-людску.

Вось чаму нельга змірыцца з той куцай «амністыяй», якую некалі Саветы «даравалі» Ларысе Геніюш і яе мужу Івану Геніюшу, што раздзяліў пакутны лёс сваёй жонкі. Вось чаму я, беларус і грамадзянін Рэспублікі Беларусь, заяўляю наступнае.

Паколькі ў свой час судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР асудзіла Геніюшаў на 25 гадоў ГУЛАГаўскага зняволення, а Савецкага Саюза ўжо не існуе, я заклікаю цяперашнія Вярхоўны суд і Пракуратуру Рэспублікі Беларусь да перагляду гэтай ганебнай справы і поўнай рэабілітацыі Геніюшаў адпаведна нормаў міжнароднага права, у тым ліку Дэкларацыі правоў Чалавека.

Напрыканцы хачу згадаць яшчэ адзін верш несмяротнай паэткі:

*Памёр паэт сягоння*
*цёмнай ноччу.*
*З вачэй народа слёзы*
*паплывуць...*
*А халуі вось паміраць*
*не хочуць.*
*А халуі другі свой век*
*жывуць...*
*Паэты мруць, а плодзяцца*
*такія,*
*Якім вачэй да сонца*
*не падняць.*
*На боль братоў сляпыя*
*і глухія.*
*Ім толькі бот скрываўлены*
*лізаць...*

Вельмі спадзяюся, што ў нашай краіне ўсё ж пераважаюць годныя грамадзяне, якія разумеюць сапраўдную цану нацыянальным каштоўнасцям і патрыятызму.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сакратар кантрольнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота*

Анатоль АКСАМІТАЎ

# «Для будучых даследнікаў»

## Ян Чачот ля вытокаў беларускага мовазнаўства

*(Заканчэнне.)*

Закранаючы пытанні арфаграфіі, Чачот адзначае, што гэта справа даволі далікатная, хоць на першы погляд, «як здавалася б, занадта лёгкая і малаважная». Для параўнання, звяртаючыся да гісторыі польскага правапісу, Чачот адзначае, што «і ў польскай мове не маем сталай арфаграфіі: як хто хоча ці ўмее, так і піша. А таму, зазначае Чачот, як сам правапіс уплывае на змяненні, нават да непазнавальнасці, чалавечай мовы, можа служыць доказам адрознення простанароднай мовы ад пісьмовай».[9] Ён звяртае ўвагу і на тое, што «пры ўстанаўленні правілаў правапісу, якія не так лёгка выпрацаваць, трэба дбаць і пра карані слоў».[10] Таму, уважаючы яшчэ некрануты, сыры матэрыял беларускай мовы, даследнік паказвае складанасць вырашэння гэтай праблемы і пакідае яе «для развагі будучаму граматысту, які, шырэй агледзеўшы асаблівасці гэтага дыялекту, зможа абдумаць якія-небудзь грунтоўныя правілы». І хоць правапіс, у якім «як вымаўляюць, так і пішуць», Чачот лічыць самым дасканалым, аднак, паколькі, на яго думку, «немагчыма, каб які-небудзь з правапісаў прыйшоў да гэтай дасканаласці, то чым болей будучы граматыст здолее ашчаджаць вымаўленне на пісьме і бліжэй да яго дастасавацца, тым большая будзе як яго праца, так і заслуга».[11] Але Чачот усведамляў, што ва ўмовах новай беларускай літаратурнай мовы, якая толькі зараджаецца, цяжка яшчэ гаварыць аб выпрацоўцы якога-небудзь больш-менш дасканалага правапісу. У сувязі з гэтым ён прапанаваў, па сутнасці, сумясціць у ім фанетычныя і этымолага-марфалагічныя прынцыпы, якія Чачот імкнуўся выкарыстоўваць пры напісанні сваіх беларускіх вершаў.[12]

Чачот стаяў каля вытокаў беларускай дыялекталогіі. Збіраючы фальклор паўночна-заходняй дыялектнай зоны (Навагрудак, Ліда і інш.) паўднёва-заходняга дыялекту, ён заўважаў яго адрозненні ад гаворак полацкай групы (Полацк, Лепель, Заазер'е, Бабынічы, Селявы, Чашнікі) паўночна-заходняга дыялекту. У сувязі з чым Чачот пісаў, што кожны з гэтых моўных арэалаў у сваю чаргу «мае не толькі ў кожным павеце, але ў кожнай, мабыць, вёсцы, нейкае асобнае вымаўленне і ўласцівыя яму словы».[13] Так, у запісах, зробленых у Навагрудскім і Лідскім паветах, Чачот адзначае недысімілятыўнае яканне: «галосны [а] вымаўляецца тут выразна пасля мяккіх зычных (з'амл'а, з'амл'еју), прыстаўны гук [г] у пачатку слова перад націскным і ненаціскным галосным [а], [у] (гара́ц', ґу́л'іца), варыянты канчаткаў формаў інфінітыва дзеясловаў (јес'ц', і јес'ці), а таксама вымаўленне галоснага [о] пасля мяккіх зычных (сонц'о, кол'к'о)». У запісах жа Лепельскага павета Чачот адзначае дысімілятыўнае аканне, якое тут збліжаецца з недысімілятыўным аканнем («дзе вельмі любяць «а», напрыклад: вада́, вадз'е́, ваду́, ва́ды; тра'ва́, травы́; ц'або́, м'ан'е́), дысімілятыўнае яканне («звужаюць «е», напрыклад: з'іемл'а, п'іравоз, ц'іраз) або часам на месцы «а» ахвотна ўжываюць «ы» (напрыклад: с'цежычка, вышываіць»).[14] Імкнучыся прывесці мову вуснай народнай творчасці да пэўнага стандарту, адшліфаваць ге ў нейкай ступені, як гэта адбываецца з рознымі стылямі літаратурнай мовы яе нацыянальнага перыяду, Чачот надае ёй рысы пераважна роднага навагрудскага дыялекту.

Мова Чачота, асабліва яго пераклады твораў вуснай народнай паэзіі раскрываюць некаторыя асаблівасці беларуска-польскіх моўных кантактаў у галіне фанетыкі, марфалогіі і лексікі. Так, спалучэнні śl, śń пад уплывам беларускай мовы набываюць форму szl, szn (параўн.: *słać* і *szląć*: *Szle do niej posły z darami; poszlę miód księdzu; poszlij swojego anioła).* З іншых рыс беларускай мовы, якія адбіліся ў перакладах Чачота на польскую мову, назіраецца страта аднаго з гукаў у збегу зычных (*gardło* на *garło*) і ва ўскосных склонах назоўнікаў (*garnek* на *garca*), назоўнік *kiszeń* пад уплывам беларускай мовы замяняецца на *kiszenia*. У перакладах Чачота беларускіх песень на польскую мову сустракаем нямала лексічных беларусізмаў. Сярод іх: **бедненькі** (*Nic nie widać biedneńkiemu*), **бусяць** (*Jaś busia i busia, Wykręca się Zosia*), **цяцера** (*Przez me podwórze Cieciera leciała*), **цямнота** (*a ciemnota głęboka z przed oka dzień wyrywa*), **глум** (*Niech nie będzie głumu Zdrowia i rozumu*), **гляк** (*dobywa wina z hlaka*), **надта** (*Iduch gdy wleci nadto do góry*), **погань** (*Czem jej prodki były znaczne, gdy przed nimi pohań nikła*), **покуць** (*Sadźmy, sadźmy na pokuci*), **паліца** (*Towary na policach uczenie złożone*), **пароша** (*Ani psa, ani poroszy*), **тычынка** (*Haczyk złoty, a tyczynka*), а таксама: **шкадаваць, адказ, верашчака, дзюбаты, зык, прыспешваць** і іншыя.

Паэтычная творчасць і аналітычная дзейнасць Яна Чачота раскрываюць асаблівасці кантактаў паміж асобнымі дыялектамі (паўднёва-заходнім і паўночна-ўсходнім) адной (беларускай) мовы і паміж суседнімі мовамі (беларускай і польскай), у якіх рашаючую ролю адыгрывае субстрат. Улік яго ўплыву спрыяе адказу на пытанні аб ступені пранікальнасці розных узроўняў моўнай сістэмы, у якой ступені і пры якіх умовах; якія колькасныя межы магчымага ўспрымання «чужых» элементаў без небяспекі страты дадзенай сістэмы сваёй спецыфікі; ці дапамагае пры сутыкненні моў структурнае падабенства іх змяшэнню; якія псіхалінгвістычныя перадумовы кантамінацыі для асобнага гаворачага і для калектыву ў цэлым; якую ролю адыгрывае ў гэтым працэсе родная мова?

У асобе Чачота як білінгва і яго творчай дзейнасці мы назіраем з'явы ўнутрымоўных і міжмоўных працэсаў сацыяльнай і культурнай значымасці. Асаблівую актуальнасць яны набываюць у нашы дні.

---

9) Тамсама, с. XVIII

10) Тамсама, с. XXI.

11) Тамсама, с. XXI—XXII

12) Крамко І.І. Чачот Ян. — Беларуская мова. Энцыклапедыя. Мн., 1994. — С. 612.

13) Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze... Wilno, 1846. — S. XVII.

14) Тамсама.

*Згадкі* *Згадкі*

# Беларуская эміграцыя ў міжваенны час

Калі да Першай сусветнай вайны сотні тысяч беларусаў, пераважна сялян, эмігрыравалі ў Піцер, Маскву і далей — у Сібір, Паўночную Амерыку, Канаду, то ў міжваенны час сітуацыя змянілася: беларусы пачалі выязджаць — перад усім з «Крэсаў усходніх» — у Паўднёвую Амерыку (Аргенціну, Бразілію, Парагвай) і ў Еўропу (Францыю, Латвію, Эстонію). Міжваенная беларуская эміграцыя дзялілася на гаспадарчую і палітычную. Першая складалася пераважна з сялян і рабочых, а другая — пераважна з інтэлігенцыі. Адны ехалі «за хлебам», другія ўцякалі ад палітычнага ўціску і рэпрэсій. У замежжы ўсім ім, у тым ліку і класным спецыялістам, жылося нялёгка. Даводзілася працаваць на цяжкіх работах, у капальнях, у гарачых цэхах на заводах, у гарадской гаспадарцы, на фермах. Большасць з іх зараблялі мала, жылі ў дрэнных кватэрах і падоўгу заставаліся беспрацоўнымі. Дзяржава гэтым людзям, не сваім грамадзянам, як правіла, не дапамагала. Так было і ў Аргенціне, і ў Францыі, і ў Аўстраліі, ды іншых краінах.

Туга па радзіме прымушала нашых эмігрантаў закладваць свае культурна-асветныя таварыствы, выдавецтвы, бібліятэкі і нават школы, аддаваць цяжка зароблены, часам апошні грош на грамадскую справу. У нацыянальных аб'яднаннях яны адчувалі сябе больш упэўнена, ва ўсякім выпадку — не людзьмі без Бацькаўшчыны і мовы. Найбольш творчымі і актыўнымі асяродкамі беларускай эміграцыі станавіліся тыя, у якія ўваходзілі эмігранты абедзвюх катэгорый. У іх культывавалася народнае мастацтва, звычаі, традыцыі, лад і склад беларускага жыцця і перад усім родная мова.

**Аргенціна** стала найбольш буйным асяродкам беларускай эміграцыі ў свеце. Нашы суайчыннікі сяліліся тут паўсюль — ад Атлантычнага акіяна на Усходзе і да горных хрыбтоў Андаў на Захадзе, у нізінным міжрэччы Параны і Уругвая. Аднак найбольш іх гуртавалася ў шматмільённым горадзе Буэнас-Айрэсе. Першыя беларускія эмігранты прыбылі ў Аргенціну ў 1926—27 гг. І з гэтага часу прыбывалі сюды штогод. Іх досыць ахвотна прымалі працаваць на прадпрыемствы, бо ведалі, што беларусы трывалыя і працавітыя, як мурашкі. Першае беларускае культурна-асветнае таварыства, заснаванае ў Буэнас-Айрэсе ў студзені 1935 г., прыкметнага следу ў жыцці суайчыннікаў не пакінула. Другое, «Культура», заснаванае ўжо ў 1937 г. нацыянальна свядомымі людзьмі (В.Крукоўскі, Хв. Крэйдзіч, Ю.Федаровіч, В.Клімовіч, П.Кардэль, Б.Шулюк і інш.), вырасла ў буйную арганізацыю, якая налічвала 180 і болей сяброў і мела добрае матэрыяльнае забеспячэнне: прыстойнае памяшканне, мэблю, бібліятэку, радыё з дынамікам, музычныя інструменты і тэатральныя касцюмы для творчых гуртоў. Святочнае адкрыццё памяшкання «Культуры» адбылося 3 красавіка 1938 г. Карэспандэнт «Новай газэты» Павел Новік расказвае: «На адкрыццё і ўмэбляванне новага памяшкання таварыства была зроблена дабравольная складка, на якую некаторыя сябры скінуліся цэлымі месячнымі заработкамі. Нават беспрацоўныя патрапілі дапамагчы таварыству пяццю пэзамі... Прызнаюся, што сэрца забілася з радосці ў маіх грудзёх, гледзячы на мора галоў, аб'яднаных адным ідэалам, аднымі летуценнямі, з нязломнай воляй ісці наперад да новага культурнага жыцця».

Праз некалькі месяцаў адбылася яшчэ адна сенсацыйная падзея — першы ў Аргенціне публічны беларускі вечар. Улётка, напісаная на беларускай, рускай і іспанскай мовах, абвяшчала: «Навіна, якой не бывала! Першы раз у Аргентыне ў беларускай мове! Дня 25 чэрвеня а 9 гадзіне вечара ў выгадным салёне на Runkon 1141, Беларускае Таварыства «Культура» наладжвае вялікі спэктакль і фамілійную забаву. У праграме: «Мікітаў лапаць»... Беларускія дэкламацыі... Скокі... Хто пабачыць камэдыю «Мікітаў лапаць», перанясецца мысьляй на сваю далёкую Бацькаўшчыну, пабачыць жыцьцё роднай вёскі, пачуець на сцэне родную мову і ўспомніць пра сваё далёкае прошлае. А затым — усе на Runkon 25 чэрвеня!..»

Пасля першай удалай спробы таварыства «Культура» зладзіла яшчэ некалькі беларускіх вечарын. З 1937 г. у Буэнас-Айрэсе працавала Беларуская бібліятэка імя Івана Луцкевіча, а з верасня 1938 г. яшчэ адно культурна-асветнае таварыства «Белавежа».

**Францыя.** Як сведчыць парыжскі карэспандэнт «Беларускага летапісу» А.Задарожны, сямідзесяцітысячная беларуская працоўная армія ў Францыі трымалася моцна, бо дома яе нішто лепшае не чакала. Беларусы працавалі таксістамі, «пры тапленні жалеза», з піламі ў лесе, плужылі зямлю паркай адмысловых коней.

Арганізацыйны рух беларусаў Францыі пачаўся ў 30-я гады. Найбольш актыўным стаў гуртох у парыжскім прадмесці Біянкуры, утвораны ў 1926 годзе нейкім спадаром Сарокам, работнікам фабрыкі Рэно і адчайным хлопцам. Ён бойка чытаў па-беларуску, меў ладную беларускамоўную бібліятэку, а карцёжнікаў перавыхоўваў, чытаючы ім творы Купалы. Тыя не вытрымлівалі і пачыналі плакаць. Падобныя гурткі беларусы стварылі ў Эльзасе, Латарынгіі, на поўначы і на поўдні Францыі. Былі спробы арганізаваць філіяльныя беларускія аддзяленні пры польскіх, рускіх і ўкраінскіх гімназіях, аднак усё канчалася тым, што арганізацыі-патроны праглыналі свае падапечныя філіі.

У снежні 1930 г. у Парыжы ўзнікла моцная беларуская арганізацыя пад назвай «Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі». Яе ўзначалілі два маладыя інжынеры, што атрымалі адукацыю ў Чэхаславакіі. За восем месяцаў сваёй дзейнасці «Хаўрус» утварыў у правінцыі пяць філій, якія аб'ядноўвалі прыблізна 350 чалавек. Генеральная рада арганізацыі наладзіла кантакты з галоўнымі прамысловымі асяродкамі. На жаль, арганізатарам «Хаўруса» не ўдалося атрымаць рабочыя карты ў Парыжы, і яны былі вымушаны пакінуць горад, а разам з ім і свой «Хаўрус». Да 1936 г. арганізацыя амаль бяздзейнічала. Яна ажыла зноў пасля вяртання ў Парыж аднаго са сваіх арганізатараў, на той час ужо пакалечанага фізічна інжынера: пачала выдаваць сваю газету, арганізавала бібліятэку-чытальню і нядзельныя курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў для беларускай вёскі (кааператараў, настаўнікаў, арганізатараў вытворчасці), якія ўзначаліў інжынер Мікола Абрамчык. На іх чыталіся лекцыі па матэматыцы, гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры, эканоміцы Беларусі і інш. Сярод выкладчыкаў значыліся інжынер-аграном, інжынер-эканаміст, спецыяліст па электратэхніцы і аўтамабілях, прафесійны гуманітарый.

Генеральная рада «Хаўруса» мела ў сталіцы Францыі сваё памяшканне, дзе ладзіліся сходы і культурныя імпрэзы, на якіх парыжская публіка мела магчымасць ацаніць майстэрства беларускага тэатра і красу беларускай народнай песні. На канец трыццаць сёмага года старшынёй «Хаўруса» быў Я.Буйвіла, сакратаром М.Абрамчык, старшынём Нагляднай рады Л.Рыдлеўскі. Дадам, што беларусы Францыі жылі ў добрай згодзе з украінцамі Францыі, сумесна адзначаючы нацыянальныя святы і ўрачыстасці, аб чым не раз паведамляў орган украінскіх работнікаў у Францыі «Українська воля». Так, 4 чэрвеня 1938 г. на Парыжскім прадмесці Пюшо адзначалася 22-я гадавіна з дня смерці ўкраінскага паэта Івана Франко. На ўрачыстасці выступіў і сакратар Беларускай работніцкай арганізацыі «Хаўруса» М.Абрамчык.

У снежні 1938 г. у Парыжы была ўтворана «Беларуская жаночая грамада», першая акадэмія якой адбылася 11 снежня. У праграме значыліся рэфераты, спевы, дэкламацыі і скокі. У вечарыне прынялі ўдзел прадстаўнікі «Хаўруса», Украінскай рабочай грамады і Украінскага работніцкага саюза ў Францыі. 23 сакавіка 1939 г. у Парыжы быў прачытаны для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў рэферат пра Беларусь.

**Балгарыя.** У яе сталіцы Сафіі ў міжваенны час існавала арганізацыя беларускіх эмігрантаў, якія паходзілі пераважна з Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Арганізацыя падтрымлівала цесную лучнасць з мясцовай арганізацыяй украінскіх студэнтаў.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**



**На здымку:** Прэзідыум акадэміі Беларускай жаночай грамады ў Францыі. Даклад чытае старшыня грамады спадарыня **Кардаш**; у якасці госця старшыня Беларускага работніцкага хаўруса ў Францыі **Ян Буйвіла**.

# В Е Р У Е М

*Цудадзейныя абразы*

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

## Ікона Божай Маці Адзігітрыя Супрасльская

У Супрасльскім манастыры знаходзіцца цудадзейная ікона Божая Маці Адзігітрыя Супрасльская. Існуе сведчанне, што разам з зямельнымі надзеламі, царкоўным абсталяваннем і кнігамі Смаленскі Уладыка ўнёс у 1503 г. у Супрасльскую царкву дакладную копію цудадзейнай Смаленскай іконы Божай Маці, якая карыстаецца асаблівай пашанай ва ўсіх славян.

Мяркуецца, што Супрасльская ікона Божай Маці вядзе свой радавод ад Улахернскай іконы, адной з сямідзесяці ікон, напісаных, паводле царкоўнага падання, евангелістам Лукою непасрэдна з Багародзіцы.

Паданне сведчыць, што гэтая ікона Божай Маці знаходзілася спачатку ў Анціохіі, потым у Ерусаліме. Жонка візантыйскага імператара Феадосія II (408—450) Еўдакія падарожнічала ў Ерусалім і там набыла гэтую ікону ды паслала яе ў Канстанцінопаль у дар св.Пульхерыі, сястры імператара. Ікона была пастаўлена Пульхерыяй ва Улахернскім храме, таму і атрымала такую назву. Тады ў яе гонар быў заснаваны манастыр, і з таго часу кожную сераду служыцца малебен у яе гонар.

Знаходжанне Улахернскай іконы ў Царградзе суправаджалася цудамі. Паводле падання Божая Маці з'явілася аднойчы двум сляпым, падвяла іх да свайго абраза ў храме і даравала ацаленне. Таму Улахернская ікона атрымала і другую назву «Адзігітрыя» — тая, што вядзе. Іншыя сляпыя, амываючы свае вочы вадою з храмавай крыніцы, таксама пазбываліся слепаты. Візантыйскія імператары асабліва шанавалі гэтую ікону, увялі нават звычай браць яе з сабою ў паходы, каб Божая Маці сваім амафорам ахоўвала іх ад ворагаў, небяспекі. У 626 годзе ўсталяваўся пабожны звычай кожны год у Вялікі Пост пераносіць гэтую ікону з Улахернскага манастыра ў імператарскі палац, дзе яна і заставалася да панядзелка Светлай Сядміцы.

Цудоўнае паданне сведчыць таксама, што імператар Канстанцін Парфірародны дабраславіў гэтай іконай сваю дачку, царэўну Ганну, выдаючы яе замуж у 1046 г. за чарнігаўскага князя Усевалада Яраславіча. Ікона суправаджала царэўну Ганну ў яе падарожжы з Царграда ў Чарнігаўскае княства, чым і пацвердзіла сваю назву Адзігітрыі (правадыркі).

Пасля смерці Чарнігаўскага князя Усевалада Яраславіча ікона Адзігітрыя перайшла ў спадчыну яго сыну Уладзіміру Усеваладавічу Манамаху, народжанаму ад царэўны Ганны. Уладзімір Манамах перанёс дабраславенне сваёй маці з Чарнігава ў Смаленск і паставіў яе ў саборным храме Успення Божай Маці, які быў закладзены ім 3 траўня 1101 года. 3 таго часу ікона Адзігітрыя пачала называцца Смаленскаю. Смаленскі Уладыка асвяціў ёю манастыр на рацэ Супраслі.

Спачатку Супрасльская ікона змяшчалася ў іканастасе. Яшчэ пры архімандрыце Сергіі Кімбары ў 1557 г. ікона была ўпрыгожаная срэбнаю вызалачанаю шатаю з каштоўнымі камянямі. У першай палове XVII стагоддзя ікона Божай Маці Адзігітрыя Супрасльская была пастаўлена пасля левай калоны і знаходзілася там да 1915 г.

Супрасльская ікона Адзігітрыі напісана ў візантыйскім стылі. Зверху над галавой Божай Маці знаходзіцца Бог-Айцец у аблоках з ангельскімі чынамі. Звычайна днём ушанавання цудадзейнай Супрасльскай іконы лічылася Дабравешчанне 25 сакавіка ст.ст. (7 красавіка н.ст.). Апошнім часам быў адноўлены дзень усеагульнага святкавання Смаленскай іконы Адзігітрыі (28 ліпеня ст.ст. — 10 жніўня н.ст.).

Цудадзейная ікона знаходзілася ў Супраслі да 1915 г., потым з-за наступлення нямецкіх войскаў у час бежанства была перанесена ў Слуцк. У Супрасль яна не вярнулася. Захаваліся толькі дзве копіі. Адна з іх знаходзіцца ў царкве св. Іаана Багаслова ў Супрасльскім манастыры.

У траўні—чэрвені і ў ліпені-жніўні ладзяцца міжнародныя навуковыя канферэнцыі-семінары і паломніцтвы, кожны дзень у сераду перад цудадзейнай іконай служыцца акафіст Дабравешчання Божай Маці.

Вакол іконы шмат нацельных крыжыкаў і іншых шчырых падарункаў ад вернікаў Божай Маці за ацаленне і дапамогу.

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Апалагеты. Абаронцы веры і Царквы

Рымскі філосаф Тэртуліян пісаў, што кроў пакутнікаў з'яўляецца насеннем хрысціян, але Царква абаранялася і перамагала не толькі геройскім учынкам многіх хрысціян. Прыкладаліся намаганні з дапамогай апалогіі пераадольваць варожыя настроі паганцаў, а таксама абвінавачванні ўрадаўцаў і цэзарскія рашэнні.

Апалагеты ў II стагоддзі абаранялі рэлігійныя перакананні і жыццё хрысціян, чым спрыялі распаўсюджванню хрысціянства і развіццю яго тэалогіі. У III ст. тэалогія выходзіць на першае месца.

Апалагеты карысталіся вядомымі ў той час літаратурнымі формамі.

Самай старой апалогіяй, якая, на жаль, не захавалася, лічыцца пасланне Квадратуса з Афін, накіраванае цэзару Гардзіяну, калі той прабываў у сталіцы Элады.

Арыстыдыс, афінскі філосаф, які стаў хрысціянінам, напісаў працу, у якой сцвярджаў, што габрэі, грэкі і барбары маюць фальшывае паняцце боства, і толькі хрысціяне з дапамогай аб'яўлення Езуса Хрыста атрымалі сапраўдную навуку і высокі ўзровень маральнага жыцця.

Юстын, навернуты з паганскай сям'і з Самарыі, філосаф і пакутнік (памёр у 165 г.), калі быў кіраўніком школы ў Рыме, апрацаваў апалогію для цэзара Антаніна Пія і яго сына Марка Аўрэлія. З яго іншых пасланняў захаваўся «Дыялог з габрэем Трыфанам», у якім шчыра прызнаецца, што шукаў праўды ў розных філасофскіх школах, пакуль не пазнаў хрысціянства і не навярнуўся. Ён тлумачыў габрэям навуку Старога Запавету, казаў ім, што Езус з'яўляецца Месіяй і Божым Сынам і што паганцы могуць збавіцца.

Тацыян, сірыец, вучань Юстына, напісаў «Прамову да Грэкаў» ніжэйшага ўзроўню, чым апалогія Юстына, бо ставіўся з жартам і ироніяй да грэцкай філасофіі і культуры. Атакі на грэкаў адпавядалі складу яго псіхікі, схільнай да экстрэмізму, што выявілася ў стварэнні радыкальнай секты энкратытаў. Хаця Тацыян і апынуўся па-за Царквой, яго апалогія карысная тым, што ён уклаў у адно апавяданне і тэксты чатырох Евангелляў.

Афінагор, афінскі філосаф, быў лепшым пяром, чым папярэднікі, адрэдагаваў «Пасланне, ці Просьбу да хрысціян», скіраваную да цэзара Марка Аўрэлія. Спакойна адкідвае хлусню на хрысціян, указвае на монатэістычныя тэндэнцыі ў некаторых паганскіх філосафаў і ніхто не абвінавачвае іх у атэізме, тлумачыць веру ў адзінага Бога Айца і Сына і Святога Духа, існаванне якога можа быць даведзена навукова. Яго філасофскія аргументы былі якаснымі, а тэалагічныя тлумачэнні глыбокімі.

Тэафіл добра разбіраўся ў элінскай культуры, быў анціяхійскім біскупам. Захавалася адзіная яго праца «Тры кнігі да Аўталікоса». Гэты ліст ён скіраваў да свайго сябра паганца, якому даказваў перавагі зместу святых кніг над грэцкай філасофскай думкай. Тлумачачы веру ў Бога Айца, Слова Божае (Сына) і Божую Мудрасць (Святога Духа), першым ужыў тэрмін Trias, з якога ўзяла пачатак назва Святой Троіцы.

Апалагеты, біскуп Мелітон з Сагдзіі, Меліціяд з Малой Азіі і біскуп Апалінар з Гераполіса абаранялі хрысціян пад час пераследу за часоў панавання Марка Аўрэлія. Невядомы, аднак змест абароны, бо ліст не захаваўся. «Ліст да Дыягнета», ананімнага аўтара канца II—пачатку III ст., змяшчае кароткую крытыку юдзейскай і паганскай рэлігіі і шырокае апісанне жыцця паганцаў.

Герміэс, хрысціянскі філосаф, у палемічным трактаце іранічна і жартаўліва крытыкуе паганскую філасофію, асабліва яе навуку пра чалавечую душу і боства.

У гісторыі вядомыя таксама апалагеты з заходняй часткі імперыі, якія пісалі на лацінскай мове.

Мінуцый Фелікс, рымскі адвакат, нарадзіўся ў Афрыцы, у сваім дыялогу, напісаным пасля 197 года, абараняў хрысціянства ад атак паганскіх інтэлектуалаў. Без агрэсіўнасці крытыкаваў політэізм і жыццё паганцаў і супрацьпастаўляў іх закідам вобраз маральнага хрысціянскага жыцця.

Тэртуліян даў цалкам новы тып апалагетычнага пісьма ў сваёй «Палагетыцы», напісанай юрыдычнай мовай, адкідваў закіды грамадска-палітычнай натуры і супрацьпастаўляў паганству маральнае жыццё хрысціян. Сцвярджаў, што хрысціянства больш за ўсё адпавядае чалавечай душы, якая хрысціянская паводле сваёй натуры.

Цыпрыян, картагінскі біскуп, быў пісьменнікам наступнага пакалення. Больш займаўся тэалогіяй. У сваіх працах выкрываў фальшывасць абвінавачвання паганцамі хрысціян, што тыя сваімі дзеяннямі выклікаюць гнеў боства.

Ці апалогіі выканалі сваё заданне? Можа мелі нейкі ўплыў на 40-гадовы мір пасля 260 г., але не прынеслі раўнапраўя хрысціянства з паганствам. Калі і не здолелі пераканаць паганцаў у вартасцях новай рэлігіі, то далі ўпэўненасць хрысціянам у тым, што яны ў поўнай меры з'яўляюцца нашчадкамі грэка-рымскай культуры. Паклалі пачатак хрысталогіі, узмацнілі свядомасць існавання Святой Тройцы, заняліся хрысціянскай антрапалогіяй. У гісторыі яны сталі крыніцай шырэйшага пазнання жыцця Царквы і яе адносін да дзяржавы.

**Падрыхтаваў А.Н.**

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Пятра Татарыновіча*

## Жыццё ў службе Богу і Бацькаўшчыне

Адной з самых выбітных постацяў Каталіцкага Касцёла на Беларусі XX стагоддзя несумненна з'яўляецца святар Пётр Татарыновіч. Людзі, што ведалі гэтага ксяндза, бачылі ў ім добрага пастыра і шчырага беларускага патрыёта.

Ён нарадзіўся 2 чэрвеня 1896 г. у вёсцы Гайнін (цяпер Ляхавіцкага раёна). Мясцовы касцёл у той час быў зачынены царскімі ўладамі, і малога Петруся ахрысцілі 29 чэрвеня ў Клецкім касцёле. Яго бацька Станіслаў і маці Караліна з дому Пашукевічаў былі працавітымі беларусамі і адзначаліся вялікай набожнасцю. Сярэднюю адукацыю атрымліваў у гімназіях Слуцка і Пецярбурга. Там жа паступіў у каталіцкую духоўную семінарыю, але давучыўся ўжо ў Менскай семінарыі. Гэта быў 1918 год, Беларусь абвясціла сваю незалежнасць, і ў Менску ладзілася беларускае нацыянальнае, дзяржаўнае і рэлігійнае жыццё. Была адноўлена менская каталіцкая метраполія, на чале якой стаў біскуп Жыгімонт Лазінскі. Ён узяў у штат сваёй курыі і семінарыі лепшых беларускіх святароў. Так, напрыклад, рэктарам семінарыі быў ксёндз Фабіян Абрантовіч, а прафесарам ксёндз Андрэй Цікота, вядомыя беларускія нацыянальныя і рэлігійныя дзеячы, што пазней загінулі ў сталінскіх лагерах. У Менску Пётр Татарыновіч атрымаў з рук біскупа Лазінскага і першыя свячанні суб-дыяканата. У хуткім часе ўрад БНР пад наступам бальшавікоў вымушаны быў пакінуць сталіцу. І біскупская курыя разам з семінарыяй была перанесена ў Навагрудак. Татарыновіч, разам з некалькімі беларускімі студэнтамі, выехаў у горад Влоцлавэк у Польшчы, дзе быў высвечаны біскупам Здзітавецкім на святара.

Першай душпастырскай пляцоўкай маладога ксяндза стаў Пінск (1921—22), дзе пад яго кіраўніцтвам былі адноўленыя спаленыя святыня і кляштар. Таксама ён займаўся школьніцтвам і душпастырскай абслугай далёкіх парафій дэканата, быў капеланам маладзёжнай арганізацыі «Juventus Christiana». Аднак хутка ён быў адкліканы ў сталіцу біскупства Навагрудак, дзе стаў выкладчыкам ніжэйшай духоўнай семінарыі.

У 1922—24 г. княвдза Татарыновіча накіравалі ў Баранавічы, дзе ён працаваў прэфектам 5 пачатковых і адной сярэдняй школы, пабудаваў школьную капліцу. Аднак з-за правакацый польскіх урадаўцаў-шавіністаў, якія бачылі ў яго патрыятычнай рабоце з моладдзю праявы беларускага нацыяналізму, быў змушаны пакінуць Баранавічы. Для заспакаення канфлікту біскуп Лазінскі скіраваў кс. Татарыновіча ў цэнтральную Польшчу, але праз год, у 1926 г., вярнуў у Навагрудак. На працягу наступных гадоў (1927—32) ён працаваў у Дамачаве, дзе, між іншым, аднавіў касцёл, пабудаваў плябанію і каталіцкі Народны дом, пасля чаго кс. Татарыновіч выехаў на працу ў Столін. У 1939 г. яго накіравалі ў парафію Перлеева, але гэтаму перашкодзіла вайна. Такім чынам, кс. П.Татарыновіч больш 20 гадоў аддаў працы ў Пінскай дыяцэзіі. За гэты час выявіўся навуковы і пісьменніцкі талент святара. Ён досыць рэгулярна публікаваўся на старонках беларускага каталіцкага часопіса «Да злучэння», у розных віленскіх часопісах. Выдаў кнігі «Святы Ізідар хлебароб», Вільня, 1928 г. і «Купалле», Вільня, 1930 г.

Пад час вайны кс. Татарыновіч выехаў у Варшаву, дзе актыўна супрацоўнічаў з Беларускім Камітэтам і асабіста з доктарам Мікалаем Шчорсам. Вучыў дзяцей рэлігіі ў беларускай школе, адпраўляў набажэнствы і казаў казанні для беларусаў у касцёлах Святога Марціна і айцоў Базыліянаў. У 1944 г. перад выбухам Варшаўскага паўстання большасць беларусаў пакінула польскую сталіцу, з імі і кс. П.Татарыновіч. Адведаў Вільню і Менск, дзе ўзяў удзел у II Усебеларускім кангрэсе, выступіўшы там з прамовай. У лютым 1945 г. ён знаходзіўся у Ротэнбургу, пасля ў Брэслаў і да канца года дабраўся да Рыма. Там кс. Татарыновіч спыніўся ў доме айцоў Марыянаў, дзе бп. Пётр Бучыс стаў яго апекуном. Пры дапамозе біскупа кс. Татарыновіч у лістападзе 1945 г. быў прыняты ў Папскі Інстытут Усходніх Навук. Скончыў яго ў 1949 г. з навуковай ступенню доктара. У верасні 1950 г. выйшаў першы нумар беларускага часопіса «Зніч» і першыя праграмы Ватыканскага радыё, у якіх ён быў нязменным галоўным рэдактарам.

Апрача гэтага, выдаў малітоўнік «Голас Душы», Рым, 1949, кнігі Святое Евангелле і Дзеянні Апосталаў, Рым, 1954, пераклад кнігі Г.Сенкевіча «Quo Vadis», Рым, 1956 г., Пакутныя псалмы, Рым, 1964 г. і Лісты Апосталаў, Рым, 1974 г., а таксама напісаў некалькі артыкулаў па-італьянску. Ахвярная праца кс. Татарыновіча не засталася незаўважанай. У 1961 г. апостальская сталіца надала яму ганаровы тытул папскага прэлата. Пазней было прызначэнне яго на пасаду сябра найвышэйшай Рады для Эміграцыі, на якой ён апекаваўся вернікамі-беларусамі ва ўсім свеце. Да канца сваіх дзён кс. прэлат Пётр Татарыновіч заставаўся верным прынцыпу «Для Хрыста і Бацькаўшчыны». Памёр а.Пётр у 1978 г. і пахаваны ў Рыме, у Вечным горадзе, дзе прайшла добрая палова яго жыцця, але сэрца гэтага вялікага патрыёта заўсёды належала роднай Беларусі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Рэлігійная хроніка

Як стала вядома з кампетэнтных крыніц, Менска-Магілёўскі мітрапаліт кардынал Казімір Свёнтак вядзе перамовы з прадстаўнікамі выканаўчай улады краіны аб поўнай перадачы Касцёлу яго былой маёмасці. У спісе нявернутых вернікам будынкаў фігуруе 21 касцёл.

* * *

Шостага траўня 1996 г. каля пяцісот парафіян берасцейскага касцёла Падвышэння Святога Крыжа прыйшлі да будынка аблвыканкама, патрабуючы ад мясцовых уладаў пакінуць у спакоі ксяндза дзекана Збігнева Караляка, якога ўлады збіраліся выставіць з Беларусі. Падставай для гэтага паслужыў данос на ксяндза старшыні берасцейскага аддзела Саюза Палякаў на Беларусі Антонія Філіпчыка і яго намесніка Яна Трацяка. Ксёндз Караляк досыць актыўна заняўся беларусізацыяй каталіцкай парафіі ў Берасці, чым выклікаў незадаволенасць мясцовых польскіх актывістаў. Уладам быў перададзены зварот у падтрымку свайго пробашча, падпісаны 3 тысячамі парафіянаў. Дзякуючы падтрымцы вернікаў кс. Караляк атрымаў ад уладаў дазвол на далейшую працу.

* * *

Папа Ян Павел II звярнуўся з прывітальным словам да моладзі, якая сабралася ля будынка Сіенскага арцыбіскупства. У прыватнасці, ён сказаў: «Будзьце прарокамі жыцця ў вашых словах і вашых справах. Супрацiўляйцеся цывілізацыі эгаізму, якая разглядае чалавека не як мэту, а як сродак для дасягнення мэты, зневажаючы пры тым яго годнасць і імкнучыся толькі да выгады. Давайце практычную дапамогу тым, хто яе патрабуе і, магчыма, знаходзіцца на мяжы роспачы. Свет павінен ведаць нас па тым, што мы здолеем перадаць нашым сучаснікам вялікую надзею — надзею на памёршага і ўваскрошага Хрыста».

* * *

Адзін з аўстралійскіх вязняў, што адбывае доўгатэрміновае пакаранне, пераклаў на мову Брайля, якой карыстаюцца сляпыя, Катэхізм Каталіцкага Касцёла. «Учыніў гэта, бо ў зняволенні мушу стаць лепшым», — сказаў вязень, які прасіў прадстаўляць яго Лесам.

Катэхізм у версіі Брайля налічвае 15 тамоў. Праект перакладу падтрымала Каралеўскае Таварыства на карысць сляпых.

Перад тым, як прыступіць да перакладу, аўстралійскі вязень прысвяціў шмат часу вывучэнню алфавіта Брайля. 3 дня на дзень, на працягу многіх месяцаў ён працаваў па 14 гадзін у суткі. Лес прызнаўся, што меў цяжкасці, перакладаючы тэалагічныя тэрміны, і дадаў, што «нічога немажлівага няма».

* * *

У Грозным дзякуючы міжнароднай дзейнасці Каталіцкага Касцёла пачало працаваць 10 кухняў, якія гатуюць гарачае сілкаванне. Гэта стала магчымым з ініцыятывы пробашча наблізкага мястэчка Прахладнае (100 км) кс. Браніслава Чапліцкага і пры замежнай дапамозе. Сродкаў, аднак, можа хапіць не болей як на тры месяцы, і невядома, што будзе далей. Зараз кс.Чапліцкі кансультуецца з расійскім КАРЫТАСам пра магчымасць забеспячэння дапамогі Чачэніі ў наступныя месяцы.

Святар таксама сказаў, што на тэрыторыі Інгушэціі знаходзіцца караван з дарамі для Грознага швейцарскага КАРЫТАСа, але пакуль немагчыма наладзіць яго бяспечны праезд. Паводле польскага ксяндза, толькі каталікі, і ў меншай ступені крышнаіты, трымаюць у Грозным дабрачынныя кухні.

## ВУЧЫМСЯ

Вікторыя ЛЯШУК,
кандыдат філалагічных навук

# Стрыжань

## Пра лён — для студэнтаў

*Ад лёну зярняці*
*да белых палотнаў...*
**Ларыса Геніюш.**

У вучэбна-навуковым тэксце асноўныя стылёвыя рысы навуковага выказвання падпарадкаваны мэце спецыялізацыі ведаў, адпавядаюць навучальнаму характару інфармацыі:

«У Беларусі найбольш распаўсюджаны лён культурны (даўгунец). А наогул у свеце вядома болей за 200 відаў гэтай расліны, якая сустракаецца ва ўмеранай і субтрапічнай зонах.

Лён-даўгунец выкарыстоўваецца для вытворчасці валакна, з якога вырабляюць ніткі, тканіну (высакаякасную, мяшэчную), вяроўкі і інш. З ільнянога семя атрымліваюць алей, які ўжываецца ў лакафарбавай, гумавай, электратэхнічнай прамысловасці, у медыцыне, як харчовы прадукт.

Найболш пашыраны пасевы лёну ў Талачынскім, Аршанскім, Горацкім, Карэліцкім, Навагрудскім раёнах. Плошча пад ільном у Беларусі займае каля 300 тыс. га.

Лён-даўгунец — аднагадовая культура, вышыня якой у залежнасці ад глебавых умоў вагаецца ў межах 60—125 см. Вегетацыйны перыяд працягваецца 75—90 дзён. Сярэдняя ўраджайнасць валакна (высушанага) складае 3,5—4,5 ц/га, ільнасемя — 2,5—3,5 ц/га».

Цытаваны тэкст напісаў дацэнт Белпедуніверсітэта М.Г.Каўхута, — з разлікам на студэнтаў пэўнай спецыялізацыі (географаў і біёлагаў), чым тлумачыцца аб'ём, адбор інфармацыі, яго падача ў выглядзе пэўных тэматычных частак, афармленых чырвонымі радкамі (абзацамі). Паслядоўнасць размяшчэння навуковых звестак залежыць ад навучальнай мэтавай устаноўкі і прызначана сістэматызаваць, удакладніць, папоўніць прафесійныя веды.

Форма выкладу разлічана на актывізацыю псіхічных працэсаў разумення і запамінання, спалучае ў сабе логіку навуковага аналізу і навучальную накіраванасць (напрыклад, у заключную, выгадную для ўспрыняцця пазіцыю пастаўлены найбольш інфармацыйна і статыстычна насычаны матэрыял).

Моўныя адзнакі стылю звязаны з асноўнымі прыёмамі фармавання новых ведаў — праз супастаўленне (напрыклад, віду ільну на Беларусі і агульнай колькасці відаў); вылучэнне (названы найбольш распаўсюджаны від ільну, асноўныя раёны яго вытворчасці, найважнейшыя формы і сферы выкарыстання); удакладненне (прыведзены наменклатурныя назвы расліны: лён культурны, даўгунец; канкрэтызаваны тыпы тканіны з ільну: высакаякасная, мяшэчная). У гэтым тэксце ўдакладненне афармляецца дужкамі — знакам, найбольш заўважным для ўспрымання, які перадае лагічную значнасць інфармацыі ці яе адасобленасць.

Адзнакай навуковага стылю з'яўляецца выкарыстанне прынятых скарачэнняў (га — гектар, ц/га — цэнтнераў з гектара і інш.). Аснову тэкста ўтварае тэрміналогія, разлічаная на пэўны ўзровень прафесійных ведаў.

У адрозненне ад уласна навуковых тэкстаў, якім уласціва канстатацыя, вучэбна-навуковыя звесткі часцей афармляюцца ў выглядзе апісання.

*(Заканчэнне будзе.)*

***Практычная стылістыка***

# Што рабіць з «увагай»?

«З цягам часу ўвагу дашкольніка ўсё больш прываблiваюць падзеі, якія адбываюцца ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі». У гэтым сказе навуковыя звесткі аформлены шматслоўна, ускладнена, а таму змест яго невыразны, заблытаны. Зразумеласці (выразнасці) шкодзіць і недасведчанасць у спалучальнасці слоў, павярхоўнае, прыблізнае ўяўленне пра іх сэнс, стылістычныя асаблівасці.

Напрыклад, мнагазначны дзеяслоў **прывабіць**, ужыты ў значэнні 'выклікаць у каго-небудзь інтарэс, цікавасць; прыцягнуць чыю-небудзь увагу', мае станоўчую ацэначнасць і эмацыйнасць, што нехарактэрна для ўласна навуковага стылю, аднак дапушчальна ў вучэбна-навуковым і нават патрэбна ў навукова-папулярным выкладах. (Галоўнае не загрувашчваць тэкст падобнымі словамі, каб не змяніць яго стылёвую прыналежнасць.)

Паводле моўных заканамернасцяў, у спалучэнні з дзеясловам **прываблiваць** назоўнікі/займеннікі ў вінавальным склоне павінны абазначаць асобу: **прываблiваць дашкольніка, яго, дзяцей, настаўнікаў, іх.** Назоўнік жа **ўвага** падпарадкоўваецца іншым, колькасна абмежаваным дзеясловам: **звярнуць увагу; надаць увагу; скіраваць увагу.**

Цяпер прааналізуем спалучэнне **ўзаемаадносіны паміж людзей.** Заўважылі супярэчнасць? Безумоўна, значэнні слова **паміж** і асновы **ўзаема** выключаюць адно аднае (першае — раздзяляе, размяжоўвае, другое — аб'ядноўвае). Ды і спалучаюцца словы ў розныя канструкцыі: **узаемаадносіны людзей — адносіны паміж** людзьмі. У прыведзеным сказе няправільна, механічна злучаны (кантамінаваны) часткі гэтых словазлучэнняў. Да слоў **адносіны/узаемаадносіны** беларуская мова мае ўдалыя сінонімы — **дачыненні/судачыненні.** Неабходна таксама заўважыць, што спалучэнне **падзеі, якія адбываюцца** выконвае чыста фармальную ролю, дубліруе інфармацыю, беспадстаўна павялічвае аб'ём тэксту, ускладняючы яго змест, парушаючы выразнасць.

Прывядзём некалькі магчымых варыянтаў выпраўлення:

**З цягам часу (паступова) усё большую ўвагу дашкольнік скіроўвае на жыццё і судачыненні людзей.**

**...усё больш прываблівае дашкольніка жыццё...**

**З цягам часу ўсё больш увагі дашкольнік надае судачыненням людзей.**

**З цягам часу дашкольнік усё больш увагі звяртае на судачыненні людзей.**

***З гісторыі красамоўства на Беларусі***

# Пра вагу ў Полацку

*(Заканчэнне.)*

Параўнанне паралельна пададзеных рознамоўных тэкстаў, суадносных зместам, выразна адлюстроўвае падабенства і адрозненне іх стылю, што непасрэдна звязана з аб'ёмам інфармацыі і яе кампазіцыйным размеркаваннем.

Гаворачы пра кампазіцыю, неабходна адзначыць яе слоўнае ўпарадкаванне праз паўтор: у беларускамоўнай частцы мяжой выказванняў («артыкулаў» дамовы) з'яўляецца ўжо вядомы з раней аналізаваных граматаў злучнік **а**, яму ў ніжненямецкім тэксце адпавядае слова **Vortmer** (даслоўна — **vort** — наперад, **mer** — яшчэ), якое можна перакласці беларускімі словамі **затым, потым, наступнае.**

У абодвух тэкстах **а** і **Vortmer** паўтораны па 10 разоў, аднак поўнай адпаведнасці ў іх размяшчэнні няма. У беларускамоўным варыянце дамовы ў заключных двух выказваннях-«артыкулах» злучніку **а** адпавядаюць злучнікі з дадатковым адценнем умовы **(ажо, аже)**: ***Ажо привѣзеть нечистыи товар, а нелюб будеть, поехати ему назадъ со своимь товаромь, а свои князь тамо казнить его. Аже наидуть оу немѣць нечистый товаръ оу Рускои земли, поити ему назадъ с товаромь оу Ригу, тамъ его свои князь судить.*** У нямецкамоўнай частцы, акрамя першых (уступных) выказванняў, усе іншыя паслядоўна пачынаюцца словам ***Vortmer*** — сведчанне метадычнасці, пунктуальнасці. У ніжненямецкім тэксце больш паўтораў, больш складана выражана дзеянне — **неабходна паслаць, неабходна судзіць** (у беларускім тэксце выкарыстаны інфінітывы — **поехати, поити**).

Цытаваныя ўрыўкі, паводле даследавання Л.К.Гетца, перадаюць новыя, раней невядомыя прававыя нормы — судзіць вінаватых у сваёй дзяржаве, адпраўляць на радзіму. Пазней гэта норма была замацавана Капыскай дамовай 1407 г.

Адметнае ў беларускамоўным тэксце дэталізаванае апісанне папсаванага, нячыстага тавара: ***А вѣсити чистыи воскъ безъ подъсады, безъ смолы, безъ сала, как вѣрхъ, тако испод.*** Гэты артыкул сфармуляваны ў іншамоўным тэксце надзвычай абагульнена: *Затым, што неабходна прывозіць на кірмаш чысты воск.*

Розніца тэкстаў звязана з вылучэннем у беларускамоўнай частцы спецыфікі гандлёвых дачыненняў, а ў нямецкай — юрыдычнае іх упарадкаванне. Мае значэнне і адрозненне беларускай і нямецкай моўных сістэм, у якіх выпрацаваліся свае сродкі перадачы зместу гандлёвых дамоў.

***Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»***

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*А стан шырокая папруга*
*Сціскае спрытна, лоўка, туга:*
*На меднай спражцы лось красуе*
*І з жоўтай бляхаю* ***фасуе.***

**ПАСАВАЦЬ** 1. Падыходзіць, адпавядаць каму-, чаму-н. (ТСБМ) passen 1. b) etw. paßt zu etw; die Farbe der Schuhe paßt (nicht) zum Anzug (WDG).

Гісторыя слова: «Наша слова» № 43 (255), 1995 г.

*Як выйшаў дзядзька наш з вакзала,*
*Яму аж моташна нейк стала:*
*Такое* ***пекла*** *— шум страшны,*
*Застой паветра і дух дрэнны.*

Далей даецца апісанне гэтага пекла, у якім дзядзька трапіў у небяспеку: На брук зляцеў ён з тратуару, што траха не расквасіў манеркі, а потым у кут глухі ўбіўся.

**Пекла** 2. перан. Месца, дзе адбываюцца небяспечныя, жахлівыя падзеі (ТСБМ). Hölle, die 1. b) (übertr.) Ort großer Qualen: die grüne Hölle des Amazonas (der tropische Urwald mit seinen Gefahren) (WDG).

*Яно б чаму? служыць бы можна,*
*Каб не валяўся так нязбожна*
*У вочы гэты Рак-вар'ят.*
*Ці ж чалавек ён? азіят,*
*Душа зацятая, ліхая,*
*Такіх паноў і свет не знае.*
.....................................
*Вядома, служба — рэч гадальна,*
*А ў гэтым* ***пекле*** *і тым болей.*

**Пекла** 2. Нясцерпныя ўмовы жыцця (ТСБМ) Hölle, die 1. b) (übertr.) sie machte ihm das Leben zur Hölle (WDG).

**Пекла.** Ням. Pech, das 'смала' ад ускосных формаў лац. pix picis пазычана ст.-в.ням. pëh, bëh (hh), с.-в.-ням. pëch, bëch, ст.-сакс.pik. Пазычанне прыпадае не пазней VII ст., калі ў лац. picem «с» гучала як «к». Царква спрычынілася да нямецкага пазычання: і ў ст.-в.-ням. Hölle мела значэнне 'пекла'.

Тая ж аснова ў грэц. pissa 'смала', лац. pix 'смала' і з'яўляюцца суфіксальнымі ўтварэннямі ад таго ж кораня, што і лац. pinus 'сасна', грэц. pitys 'сасна'.

***Культура мовы***

# Крашын

Беларусь, як вядома, доўгі час была то пад польскім, то пад расійскім гаспадарствам. І гэтая іхняя ўладарнасць перайначыла шмат беларускіх назоваў праз расійскую ды польскую арфаграфію. Радзіма нашага слыннага Паўлюка Багрыма — не выключэнне. *«У Крашыне жыць не буду... У Крашыне пан сярдзіты»,* — чытаем у першай публікацыі Багрымавага верша ў запісе Ігната Яцкоўскага.

Сваё мястэчка карэнныя крашынцы называлі і называюць толькі Крашын. Аднак жа на ўсіх афіцыйных шыльдачках, на дарожных знаках — скрозь значыцца «Крошын». А то нават і Крошына. Адкуль жа ўзяўся гэты «Крошын»? Ды вельмі проста — усе гэтыя наватворы ідуць праз расійскую арфаграфію. Прасочым гэта на некаторых прыкладах. Ёсць у нас, скажам, мястэчкі Ра́дашкавічы, Рагава́, Ша́ркаўшчына, Рагі́, Ражкі́, Асі́павічы...

Калі ўзнікае патрэба перадаць іх расійскай арфаграфіяй, тутэйшыя, завельмі расійскамоўныя рупліўцы перадаюць іх бяздумна, без уліку беларускага гучання. Нашы Радашкавічы ператвараюцца ў Радашковичи, Рагава — гэта ўжо Рогово. Шаркаўшчына праз расійскую арфаграфію становіцца Шарковщиной. А нашы Рагі́ — гэта ўжо не Рагі, а Ро́ги, Ражкі́ — Ро́жкі, Асі́павічы — Асіповічы... І гэтак бясконца.

Не сакрэт жа, у нашым нядаўнім мінулым на Беларусі афіцыйнае і дзяржаўнае справаводства пераважна вялося па-расійску. І калі каму-кольвек даводзілася напісаць тую ці іншую назву па-беларуску, ішлі ўжо ад расійскай арфаграфіі. Гэтак, з Радашкавічаў праз Радашковичи рабілі Радашковічы, з Рагавы праз Рогово — Рогава, з Шаркаўшчыны праз Шарковщину атрымалі Шаркоўшчыну. А беларус напісанаму заўсёды верыў і верыць. Дый «о» ў ягонай мове заўсёды пад націскам. І ён, давяраючы напісанаму, пачынаў ламаць свае векавыя назвы. Гэтак і з Крашына атрымаўся Крошын — праз Крошин.

Найбольшыя змены, перайначванні адбываюцца з тымі назовамі, у якіх пераважае беларускае аканне. Тут змены часам адбываюцца да непазнавальнасці. Яскравы прыклад, як з Рагавы (пад Ра́дашкавічамі) узнікае Рогово ці, скажам, з Алы (рэчкі і вёскі на Бабруйшчыне) узнікае Ола.

Дзіўна чытаць і бачыць такое напісанне ў расійскамоўным друку. Яшчэ больш дзіўна бачыць яго ў беларускамоўным. Нашу Алу ператварыць у Олу! Змена арфаграфіі, як бачым, выклікае і змену націску. Моўнаму разбурэнню нашых назваў спрыяе і наезджы люд, якому ўсё роўна Ала ці Ола, Шапялі ці Шэпелі.

Што ж рабіць у такім становішчы?

Адзінае: настойліва і паслядоўна тлумачыць, што беларускія геаграфічныя назвы маюць свае асаблівасці, свае адметнасці і іх трэба захоўваць ва ўсіх мовах і на ўсіх мовах. Вось дзеля гэтага давайце паспрабуем вярнуць хоць адну пакуль нашу назву з панявечча, і хай гэтай назвай будзе наш слынны Крашын. У кожным канкрэтным выпадку будзем казаць (паводле склонаў): Н.Крашын, Р.Крашына, Д.Крашыну, В. (думаць пра) Крашын, Т.Крашыном, М.Крашыне, *У Крашыне жыць не буду... У Крашыне пан сярдзіты.*

**Ул.СОДАЛЬ.**

Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.
Алена ШЧУКА — англійшчына.

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПО́КУЦЬ** *ж.* (вугал, месца ў хаце, дзе сыходзяцца дзве сцяны і дзе вісяць абразы і стаіць стол, за які садзяць паважаных гасцей) *А нам сягоння тут здаецца, Калі навокал паглядзім: На ганаровым самым месцы, На самай покуці сядзім!* (Гілевіч), **ПО́КУЦЬ** *м.*, разм. *Быў ён [стараста] зусім ссівелы і, не зважаючы, што ў гадах, вялікі і мажны — як устаў, загарадзіў увесь покуць з абразамі* (Быкаў), **ПО́КУТ** *м. Багоў з хаты, як вар'яты, Выкінулі ў смецце, — покут голы, невясёлы, Як у той павеці* (Крапіва), **КУТ** *Сівой барадзе Месца на куце* (Лось), *Таго на кут, у каго мазалі цвярдзейшыя* (прыказка).

**ПО́ЛУДЗЕНЬ** (лёгкая ежа для спажывання паміж абедам і вячэрай) *Недаедзены абед паслужыў полуднем,* **ПО́ЛУДНІК** дыялектнае *Ён [бацька] не хацеў крыўдзіць мяне: ад свайго полудніка пакідаў акрайчык хлеба і брусок сала* (Сачанка), **ПАДВЯЧО́РАК** разм. *Юзя вынесла ёй [пані Авяліне] падвячорак — зацукраваныя чарэшні і кавалак пірага* (Бажко).

**ПО́ЛЬКА** (жанчына польскай нацыянальнасці) *Бажэна абнялася з полькай Зосяю, і Стась пацiснуў Здэнэку руку* (Панчанка), **ПАЛЯ́ЧКА** *Маладая палячка заплятае вянок* (Броўка).

**ПО́МНІК** (архітэктурнае або скульптурнае збудаванне ў памяць, у гонар якой-н. асобы ці падзеі) *Не здзівіла Вольгу і грандыёзнасць Масквы, яе чыстыя светлыя вуліцы, высачэзныя і прыгожыя дамы, цудоўныя помнікі* (Васілевіч). *Трое спакойна павярнулі і папраставалі па плошчы да шчодра асветленага помніка цяжкай вайне і вялікай перамозе* (Янкоўскі), **МАНУМЕ́НТ** (велічны помнік у гонар якой-н. выдатнай асобы, падзеі) *Не мала ўзняслі мы за час пераможны Увысь манументаў героям адвагі* (Чарнушэвіч).

**Помнік.** У англійшчыне таксама два назоўнікі ўжываюцца ў гэтым сэнсе: **memorial** і **monument.** Абодва словы прыйшлі з французскай мовы. Адразу можна заўважыць, што адно з іх было пазычана і беларускай мовай.

**ПО́МНІЦЦА** (захоўвацца ў памяці, не забывацца) *Цётка Маня помнілася Наталі па сваёй зваглівай дабраце, па старэчай прыдзірлівай строгасці, па куфрах, акованых паласкамі жалеза, у якіх было поўна таго дабра, якое даўно выйшла з ужытку і моды* (Скрыган), **ПА́МЯТАЦЦА** і **ПАМЯТА́ЦЦА** *Памятаецца нам гэта, Нібы ўчора ўсё было* (Крапіва).

**ПО́МНІЦЬ** *каго-што, пра каго-што, аб кім-чым і з дадан. сказам* (трымаць у памяці, не забываць) *— Добра, я табе гэта не дарую! — працадзіў праз зубы Пясецкі. — Век будзеш мяне помніць* (Гурскі). *Не помніць карова зімы, дачакаўшы лета* (прыказка), **ПА́МЯТАЦЬ** і **ПАМЯТА́ЦЬ** *каго-што, пра каго-што, аб кім-чым і з дадан, сказам. [Волечка:] — Маці я свае не памятаю, яна даўно памерла* (Чорны). *[Жэнька:] — Чаму ён [Серада] як быццам не памятае пра тое, што сёння робіцца ў вёсках, — колькі хат гарыць* (Брыль). *Ён [дзядзька Талімон] быў добрым чалавекам і на сваім вяку зрабіў нямала карыснага. Аб гэтым памяталі не ўсе* (Кулакоўскі). *І Антон, і Лаўрэн не памяталі, каб тут вяліся лісы* (Грамовіч).

# КІНА-ВІДЭА-АЎДЫЁ-ШОЎ-НАВІНЫ

## Наша справа не левая, пераможа настойлівы



Зайдзіце ў любую музычную краму нашай краіны — чаго там толькі няма. Беларускіх кампакт-дыскаў і аўдыёкасет няма, запісаў папулярных у нас венгерскіх і польскіх рок-гуртоў няма, «новай хвалі» ўкраінскай поп-музыкі няма. Ёсць толькі бясконцы шэраг «левых» перавыданняў «стаўпоў» заходняй поп-камерцыі, зробленых цалкам «пірацкім» спосабам ценявымі вытворцамі з Балгарыі, Кітая і Расіі, ад прадукцыі якіх настойліва, але пакуль не надта паспяхова адмаўляюцца сумленныя гандляры ўсяго свету.

А ці ёсць у беларускага філафаніста альтэрнатыва папоўніць сваю калекцыю больш разнастайнымі экземплярамі і адчуць разам з тым гарантаваную якасць прадукцыі законапаслухмяных выдаўцоў?

Аказваецца, ёсць. Гэтая альтэрнатыва — **Беларуская праграма Польскага радыё**, дзе не толькі рэгулярна гучаць запісы беларускіх рок-гуртоў і бардаў, але і ў шматлікіх конкурсах прапануюцца на прызы самыя свежыя выданні польскіх фірм. Толькі за апошні год праз гэтыя конкурсы філафаністы з Гародні і Менска, Берасця і Магілёва, Віцебска і Гомеля атрымалі кампакт-дыскі знакамітых гуртоў «Оддзял замкненты» (здымак уверсе) і «Ву-Ву», аўдыёкасеты зорак апошняй плыні «Дэ Мона», «Варыюс Манкс», Эдзіты Гурняк, зборныя калекцыі лепшых супер-гітаў мінулых гадоў з рэпертуару «Маанаму» (здымак унізе), Марылі Радовіч, Марэка Грэхуты. А літаральна днямі ў эфіры Беларускай праграмы Польскага радыё прагучаць імёны пераможцаў апошняга конкурсу «Актыўны слухач», які праходзіў у траўні.

Нагадваем, што гэтая праграма выходзіць штодзённа на хвалях радыё «101,2» (FM) і чатыры разы ў дзень — на кароткіх хвалях (41 і 49 метраў). Самае цікавае, што зусім не трэба рызыкаваць, каб выйграць.




## Крызіс...стратнай эканоміі сродкаў

Кінавідэапракат Беларусі — у крызісе, гэта відавочна: раскрутка дарагіх цяпер фільмакопій не аплачвае нават амартызацыю праекцыйнага абсталявання, а на танныя фільмы глядач ужо проста не ідзе. Дзе ж прычына крызісу і шляхі выйсця з яго?

Бадай, яшчэ раз пацвярджаецца народная мудрасць: сквапны плаціць двойчы. Беларусь пашкадавала сродкаў на стварэнне незалежнага кінавідэапракату, паспадзяваўшыся на Расію: у краіне няма ніводнай уласнай студыі дубліравання фільмаў ні для тэлебачання, ні для кінатэатраў. Нават саматужных відэакопій на ўзор расійскіх з накладваннем субцітраў або двайнога тэксту не робяць. Усё, што мы глядзім — амерыканскае, французскае, польскае, — купляецца не ў Амерыцы, Францыі або Польшчы, а чакаецца зноў жа з Масквы ці Екацярынбурга.

І тут ужо ўступае ў размову эканоміка. Што мае той, хто купляе тавар з першых рук? Натуральна, кошт у 1,5—2 разы таннейшы. Кіно ж Беларусь купляе з самых апошніх рук, калі і тавар паспеў пракіснуць, і накруціць кошт паспелі розныя дзялкі братняга народа.

Як прамежкавую формулу ўтрымання на плыву Менскае гарадское прадпрыемства **«Кінавідэапракат»** пакуль удала выкарыстоўвае даробак мінулых гадоў, маючы ў сваіх архівах каля тысячы фільмаў розных краін. Рэтраспектыўныя паказы пад рубрыкай «Любімыя камедыі», «Партрэты рэжысёраў» і г.д. яшчэ здольны канкурыраваць з аднатыпнымі «свежымі» ўзорамі заакіянскай «дзяшоўкі», бо прапануюцца тут незабыўныя творы Клода Зідзі, Жэрара Уры, Маргарэты фон Трота, Бярнарда Бэрталючы.



Не старэе гумар Луі дэ Фюнэса (на здымку), П'ера Рышара, Альберта Сордзі, не губляюць шарму героі Жана Поля Бельмандо і Жэрара Дэпардзье. Але ці не чакае беларуса лёс героя фільма Гарольда Рэміса «Дзень сурка», які ледзь не застаўся на ўсё жыццё ва ўчарашнім дні? Аднак, адказ на гэтае пытанне трэба чакаць не ад гарадскога прадпрыемства.

## Чужыя нашы і свае чужаніцы

Калі пры сацыялізме людзі былі адзін аднаму канкурэнтамі ў набыцці неабходных рэчаў, дык і капіталізм у нас ва ўмовах татальнага зніжэння платаздольнасці насельніцтва стварыў беспрэцэдэнтную канкурэнцыю між рознымі галінамі эканомікі і культуры. Чаму быць: кнігам ці каўбасе, лёгкай прамысловасці або цяжкай? На ўсё адразу спажыўцам не хапае грошай. Але ў дылеме выбару між кінатэатрам і хатнім відэа барацьба аргументаў яшчэ не скончылася. А ў сэнсе навінак кінатэатр стараецца апошнім часам не адстаць ад відэа: разам з усёй Еўропай на Беларусі пракаціліся **прэм'ерныя паказы** апошняй серыі славутага цыкла пра Джэймса Бонда — «Залатое вока», аператыўна трапілі на наш вялікі экран і вабныя кінакоміксы з удзелам Джыма Кэры («Маска», «Вар'ят і большы вар'ят», дзве часткі «Эйс Вентуры»). У чэрвені таксама мяркуецца процьма галівудаўскіх сустрэч: «Тры жаданні» з удзелам Патрыка Суэйза, «Распусная жанчына» Эндру Стывенса з яго ж удзелам у галоўнай ролі, «Цягнік-грошавік» з зорным бляскам Уэслі Снайпса (на здымку) і г.д. І што самае цікавае, калі гэткае ззянне чужых зорак над небасхілам Еўропы ўспрымаецца як




інтэрвенцыя ў традыцыйны духоўны свет, дык для беларусаў, стомленых імперскім подыхам сваіх «...імператараў» ды «...a La russo» і абураных затоенай або адкрытай самазнявагай розных «Нянавісцяў», Галівуд становіцца адзінай крыніцай стабільнага спакою душы. Тым больш, што менавіта там квітнеюць зоркі Пітэра Багдановіча, Джорджа Мінскага, Лаліты Дадовіч і іншых нашых землякоў.

## І ў Амерыцы нацыянальныя праблемы



Так, так. Нават зорак Галівуда датычаць пытанні бытавога антысемітызму. Таронцкі беларускі часопіс «Зважай» (№ 84, травень 1996) падае цікавую інфармацыю агенцтва «Ройтэр» з Лос-Анджэлеса: «Выдатны амерыканскі артыст кіно **Марлон Брандо** («Хросны бацька», «Апакаліпсіс сёння») у нядаўнім сваім інтэрв'ю тэлекампаніі «CNN» для перадачы «Larry King Live» сказаў, што «Галівудам кіруюць габрэі і Галівуд ёсць уласнасць габрэяў». На гэтае выказванне базаваная ў ЗША Ліга Абароны Габрэяў паабяцала суперзорцы, штоператворыць рэшту жыцця Марлона Брандо (артыста вы бачыце на здымку) у сапраўднае пекла».

Пікантны інцыдэнт, але для нас зусім не характэрны: тут ніхто і не даўмеецца сказаць, што «Беларусьфільм» належыць беларусам або беларусы ім кіруюць. Дый нават каб нехта і сказануў гэтак, не падумаўшы, дык беларусаў і абараніць у сябе на радзіме няма каму — ніякай тут Belarusan League.

## У кожнага сваё шчасце ў жыцці

Арыгінальным успамінам азнаменавалася ў сярэдзіне траўня культурнае жыццё Беларусі для сяброў менскага **клуба філафаністаў**. Ад самага заснавання свайго ў 1977 годзе гэты клуб зазнаў шмат што: калекцыянерам носьбітаў музычнай інфармацыі (аўдыёкасеты, кампакт-дыскі, вінілавыя кружэлкі, кнігі, постары і г.д.) забаранялі «захапляцца пэўнымі шкоднымі відамі музыкі, як гард-рок, джаз, гэві-метал, панк, не дазвалялі прыносіць дыскі пэўных выканаўцаў («Final cut» гурта «Pink Floyd» — за словы «Brezhnev took Afghanistan»; «Night fly to Venus» гурта «Boney M» за словы «Rasputin like to fuck of russian queen»). Праўда, з таго часу, як усё гэта грунтоўна прапісалася ў дзяржаўных і прыватных музычных крамах нашай краіны, жыццё філафаністаў таксама змянілася... Аднак, не падумайце, што яно стала больш лагодным: зусім нядаўна клуб «турнулі» з апошняга месца штотыднёвых збораў — фае кінатэатра «Беларусь» і з канца зімы да канца вясны ён туліўся на «свежым паветры» ў скверы ля станцыі метро «Фрунзенская». Дык вось акурат у траўні тут і адбылася апошняя міліцэйская аблава: аматараў музыкі выхоплівалі з натоўпу без якіх-небудзь канкрэтных прэтэнзій — ці ў руках быў CD з «Брандэнбургскімі канцэртамі» Баха, ці альбом «Опи...енение» (праўда, у арыгінале — без кропак) расійскага гурта «Гражданская оборона». Уратавацца ўдалося толькі тым, хто аператыўна перамятнуўся да натоўпу ля піўняка — тых не чапалі. Хоць не СССР, а толькі ССР, але гэта ўжо вяртаецца. Праўда, пагаворваюць, што аблаву навёў music-shop «Праспект», якому клуб філафаністаў замінае рабіць незаконны бізнес па распаўсюджванні «падпольных» музвыданняў. Але факт, што міліцыя дзейнічала яўна не па загаду прыватнай крамы, а як дзяржструктура, што ўтрымліваецца з нашых падаткаў.



## Ад «Бонды» да «Палаца»

Гісторыя беларускіх відэакліпаў, пачатая бліскучай работай Г.Шувагіна («Бонда» — «Ура!», 1987 год, гл. здымак) і працягнутая творамі Э.Гатоўскага («Рэй» — «Храмы падаюць», «Лебядзіны крык», 1989 год) ды С.Шынкарэнкі («Рокіс» — «Запомні яго такім»; «Крама» — «Бяжы, хлопец», 1992), атрымала свой лагічны працяг і жанравае развіццё ў поўнаметражнай відэакалекцыі гурта **«Палац»**, што працуе ў стылі этна-тэхна. Фільм, адзняты на выдатнай фірмавай стужцы з бліскучай колера- і гукаперадачай, уключае і маляўнічыя фрагменты канцэртных выступаў калектыву, і красамоўныя рэпетыцыйныя эпізоды, і змястоўныя інтэрв'ю з удзельнікамі калектыву. Дарэчы, папулярныя не толькі ў Беларусі артысты, яны не з таго шэрагу,

*«...калі другі артыст народны*
*не ведаў двух народных слоў,*
*затое меў тут харч нязводны*
*і ўволю цешыўся з аслоў...»*



Калі з'явіцца ў продажы відэакасета з гэтым фільмам, пакуль афіцыйныя крыніцы не паведамляюць. Затое фрагменты час ад часу з'яўляюцца ў тэлевізійных фортках БТРК.

**Старонку «Гіт» прэзентуе шаноўным чытачам журналіст, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Кинонеделя Минска»**

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

# Праграма тэлебачання

## Панядзелак, 17 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль.
7.50 Эканамікст. Нерухомасць.
8.00 «Чарнобыль: праблемы і вырашэнні».
8.30 «Гора баяцца — шчасця не бачыць». М.ф. 1-я і 2-я ч.
10.40 «Болдзінскае прыцягненне». Д.ф.
11.20 «Кафедра». М.ф. 1-я і 2-я ч.
15.00, 18.50, 0.15 Навіны.
15.15 «Фліпер».
15.40 Педагагічны экран.
16.20 Параграф. Беспрацоўе ў г.Менску.
16.50 «На добры лад».
17.05 «Майстэрня».
17.50 Музычны антракт.
18.00 «Экамір-96». «Трэці анёл уваструбіў». Д.ф.
18.25 Эканамікст. Нерухомасць.
18.35 «3 х 1». Музычная перадача MTV.
19.05 «Крок». Тэлегульня.
19.40 «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
19.55 Музычны антракт.
20.05 «Востры вугал». Перадача па пісьмах гледачоў.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 Спартыўны тэлекур'ер.
22.10 Прэм'ера тэлеэкрана. М.ф. «Сын за бацьку».
23.35 Музычны салон Элеаноры Язерскай.

**ГРТ**

5.00 Тэлераніца.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.35 Навіны.
8.15, 17.20 «Сакрэт трапіканкі».
9.10 Што? Дзе? Калі?
10.10, 13.40 Мультфільм.
10.30, 18.35 Адгадай мелодыю.
11.10 Тэлерадыёкампанія «Свет».
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца».
14.45 Марафон-15.
15.00 Зорны час.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 Джэм.
16.30 Сем дзён спорту.
18.10 Час пік.
19.00 Калі.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 «Вертуальная рэальнасць».
21.45 «Да і пасля...»
22.45 «Адзінокі голас чалавека». М.ф.

**Канал «Расія»**

17.15 Мультфільм.
17.25 «Твар з вокладкі». Група «Ліцэй».
17.40 L-клуб.
18.25 Выбары-96.
19.00, 22.00, 23.20 Весткі.
19.35 «Санта-Барбара».
20.30 Спорт-пары.
20.35 Бочка мёду.
21.10 Дзённік чэмпіяната Еўропы па футболе.
21.25 «Забойствы ў лялечным доміку». М.ф.
23.05 Музыка ўсіх пакаленняў.
23.35 Заставайцеся ў капелюшы.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 12.55, 13.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Інфарм ТБ «Цяпер».
12.05 «Першае каханне».
13.05 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 Тэлеслужба бяспекі.
14.05 «Спякота ў Акапулька».
15.50 Стыль жыцця.
16.05 Казка за казкай. «Цудоўная Разалінда».
16.30 «Філасофія па Філу».
16.55 Спартыўны агляд.
17.05 Толькі без панікі.
17.30 «Сугучнасць». Муз. фільм.
17.40 «Карнавал у Царскім Сяле». Т.ф.
18.00 Г.Свірыдаў. Сюіта з музыкі да аповесці А.С.Пушкіна «Мяцеліца».
18.35 Вялікі фестываль.
19.05 «Першае каханне».
20.05 «Ад першай асобы». Выступленне паўнамоцнага прадстаўніка Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ў Санкт-Пецярбургу С.А.Цыпляева.
20.40 Тэлеслужба бяспекі.
21.00 Спорт.
21.05 «Спякота ў Акапулька».
22.05 «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.
22.20 «Асабістае дасье Эдгара Гувера». М.ф.

**НТБ**

17.00 Мультсерыял.
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00, 23.00 «Сёння».
18.35 Герой дня.
19.00 «Зладзейка». М.ф.
20.40 Доктар Вугал.
21.35 «Смерць па кантракту».
22.30 Часінка.
23.20 Шахматы.
23.25 Тэніс у поўнач.

## Аўторак, 18 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль.
7.50 Эканамікст.
8.00, 15.00, 18.50, 24.00 Навіны.
8.15 Аўта-парк.
8.30 Мультфільмы.
8.53 Выпускны экзамен па матэматыцы за курс сярэдняй школы.
9.00 «Кобра».
9.50 Абібок.
10.20 «Сядзіба».
10.55 «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
11.10 «Востраў натхнення».
11.40 «Прыгоды Электроніка». Т.м. ф. 1-я ч.
12.50 «Чацвёртае вымярэнне».
15.15 «Фліпер».
15.40 «Усё пра ўсё».
16.05 Вяскоўцы.
16.40 Студыя «Акно». «Напярэдадні будучыні».
17.20 Урокі Н. Наважылавай.
17.50 Музычны антракт.
18.00 «Спыніся, прыслухайся...» Кінанарыс.
18.15 «Будзьце здаровы».
18.25 Эканамікст.
18.35 «3 х 1». Музычная перадача MTV.
19.05 «Кобра».
20.05 Вертыкаль.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 Музычны антракт.
22.05 Фільм «Караван смерці».
23.25 «Творцы». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валерый Бандарэнка.
0.15 Рэспубліканская Спартакіяда прадстаўнікоў працоўных калектываў.

**ГРТ**

5.00 Тэлераніца.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Навіны.
8.15, 17.20 «Сакрэт трапіканкі».
9.05 Калі...
9.45 На балі ў Папялушкі.
10.30, 18.35 Адгадай мелодыю.
11.10 Тэлерадыёкампанія «Свет».
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца»
14.45 Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
14.55 Мультытролія.
15.10 Чароўны свет, альбо Сінема.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Сем дзён спорту.
18.10 Час пік.
19.00 Тэма.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Футбол. Францыя — Балгарыя.
22.00 «За ўсё трэба плаціць». М.ф.
23.20 Футбол. Шатландыя — Швейцарыя.

**Канал «Расія»**

13.00, 16.00, 19.00, 23.25 Весткі.
13.20 Дзелавая Расія.
13.50 «Воўк і цяля».
14.00 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
14.50, 16.20 Хакей. Кубак Стэнлі.
15.50 Каляндар.
17.20 «Здароўе».
17.30 Працяй простага.
18.00 «Цёмная» для М.Арбатавай.
18.15 Нічога, акрамя...
18.30 Выбары-96.
19.35 «Санта-Барбара».
20.30 Спорт-пары.
20.35 Джэнтльмен-шоў.
22.10 «Музыка ўсіх пакаленняў».
21.25 Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Зборная Галандыі — зборная Англіі. У перапынку — Весткі.
23.40 «Праўда». Прэм'ера д.ф.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 12.55, 13.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Інфарм ТБ «Цяпер».
12.05 «Першае каханне».
13.05 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 Тэлеслужба бяспекі.
14.05 «Спякота ў Акапулька».
15.50 Стыль жыцця.
16.05 Авертайм.
16.20 Мультфільм.
16.30 «Філасофія па Філу».
16.55 Спартыўны агляд.
17.05 Толькі без панікі.
18.35 Вялікі фестываль.
19.05 «Першае каханне».
20.05 «І зноў вось гэты двор». М.ф.
20.40 Тэлеслужба бяспекі.
21.00 Спорт.
21.05 «Спякота ў Акапулька».
22.05 «На ноч гледзячы».
22.20 «Рэмо: бяззброены і небяспечны». М.ф.

**НТБ**

17.00 Мультсерыял.
17.30 «ДЭЗЗЛ».
18.00, 21.00, 23.00 «Сёння».
18.35 Герой дня.
19.00 «Мільёны Брустэра». М.ф. (ЗША).
20.45 Доктар Вугал.
21.35 «Смерць па кантракту».
22.30 Часінка.
23.20 Вялікі рынг.
23.50 Пінк Флойд.

